9 жніўня 2019 | № 29 (640)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




**Слава Украіне — лібертарыянцам слава!**
Стар. 9



# Навошта гэты цырк?



Сяргей ПУЛЬША

**Вызначыліся. Аляксандр Лукашэнка падпісаў два ўказы пра выбары. Савет рэспублікі будзе абраны 7 лістапада гэтага года, а новая Палата прадстаўнікоў — 17 лістапада. Адпаведна, у гэтым годзе мы атрымаем нейкі своеасаблівы «цуд на Каляды» — зборышча новых дэпутатаў. Такім чынам, парламенцкую выбарчую кампанію можна лічыць афіцыйна адкрытай. Праўда, незразумела, навошта і каму гэта трэба.**

У некаторых беларускіх праваабаронцаў ужо даўно ўзнікала думка пра тое, што выбары любога ўзроўню (можа быць, апроч прэзідэнцкіх) у нашай краіне трэба адмяніць. Асноўны аргумент — галасы на іх не лічаць, а дэпутаты не з'яўляюцца прадстаўнікамі народа, бо прызначаюцца па загадзя зацверджаным спісе. І гэта ні для каго не сакрэт. Таму ці не лепш было б, у мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў, не праводзіць гэтую «паказуху», а проста прызначыць дэпутатаў адпаведным указам кіраўніка дзяржавы?

Адна толькі экалагічная эканомія чаго вартая: замест 7 мільёнаў паперак-бюлетэняў сапсуецца ўсяго адна (!) папера на адпаведны ўказ. А яшчэ пяць паперак на спіс дэпутатаў заменяць безліч «макулатуры» ў выглядзе перадвыбарчых улётак. А ўжо колькі мы зэканомім на працы выбарчых камісій, якіх не будзе! Канешне, крэдыт на АЭС за кошт адмены выбараў мы не выплацім, але ашчадзіць грошай зможам істотна.

Другое: мала хто памятае «сваіх» дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і добра ўяўляе, чым яны займаюцца. З мінулых выбараў 2016 года прынамсі я на інфармацыйным стэндзе ля свайго пад'езда не бачыў аніводнай аб'явы, дзе б дэпутат ППНС па маёй акрузе запрашаў бы мяне (і іншых выбаршчыкаў) на справаздачу аб сваёй дзейнасці.

Дарэчы, хто-небудзь памятае не толькі прозвішча дэпутата, але і яго абяцанкі ў перыяд перадвыбарчай кампаніі? Таксама не? А дарма — пашукайце ў інтэрнэце. Зараз прачытаць іх перадвыбарчыя праграмы — абрагочашся. Усе абяцалі «падтрымку моладзі», асабліва таленавітай, захаванне (калі не паляпшэнне) сацыяльных стандартаў, новыя працоўныя месцы, падтрымку малому бізнесу і гэтак далей.

Але высветлілася, што дэпутаты, калі раскідваліся абяцанкамі, не ведалі, што нічога не вырашаюць — нават тады, калі гэтага ад іх патрабуе грамадства. Грамадства патрабавала апошнім часам шмат чаго. Адмены «дармаедскага дэкрэта» (узрушэнні 2017 года прыйшліся на працу парламента менавіта гэтага склікання); непрыняцця «закона Раўкова», які скасоўвае адтэрміноўкі службы ў войску (супраць закона было сабрана 10 тысяч подпісаў); палёгкі па сумнавядомым артыкуле 328 за незаконны абарот наркотыкаў (ініцыятыва «Маці 328» праводзіць пікеты да сёння); людзі крытыкавалі павышэнне пенсійнага ўзросту...

Можа быць, «закон Раўкова», тэрмінова прыняты парламентарамі, — гэта і ёсць падтрымка таленавітай моладзі? А павышэнне пенсійнага ўзросту і «дармаедскі дэкрэт» у новым выглядзе — гэта «сацыяльны стандарт»?

З іншага боку — што чакаць ад дэпутатаў, калі яны не могуць абараніць нават самі сябе! Кіраўнік краіны па-валюнтарысцку вырашыў скараціць тэрмін іх паўнамоцтваў ледзь не на чвэрць — хто-небудзь выказаўся супраць? Хіба толькі Канапацкая заявіла, што для гэтага няма законных падстаў, астатнія праглынулі — як мае быць.



Фота www.deseretnews.com

**Марнаваць грошы на выбары варта, калі яны сапраўдныя. А калі «дэпутат» — толькі назва для прызначанага чыноўніка, навошта нам тыя выдаткі?**

На добрую справу, павінна было быць інакш. Кожны дэпутат мусіў устаць і сказаць: «Мяне на гэтую пасаду абраў народ, мае выбаршчыкі. І калі тэрмін дэпутацтва скарачаецца — гэта не мае паўнамоцтвы заканчваюцца. Гэта заканчваюцца паўнамоцтвы маіх выбаршчыкаў па ўдзеле ў прыняцці дзяржаўных рашэнняў шляхам дэлегавання мне паўнамоцтваў! То-бок, парушаюцца не мае правы, а правы маіх выбаршчыкаў, а на гэта я пайсці не магу!»

Ніводны дэпутат не згадаў пра тое, што ён на пасаду АБРАНЫ, і што парушаюцца правы тых, хто яго абіраў. Затое Лукашэнка наконт скарачэння тэрміну дзеяння парламента гэтага склікання заявіў: «Парламентары з намі пагадзіліся. Яны ў гэтым плане, дэпутаты нашы, малайцы». А некаторыя з іх, з дэпутатаў, не саромеючыся прызнаваліся «ў кулуарах» карэспандэнту расійскай «Независимой газеты», што «скарачэнне іх цяперашняга дэпутацкага тэрміну ўлады змякчылі абяцаннем абрання ў новы (парламент новага склікання. — НЧ)».

То-бок, мы і атрымалі адказ, ад каго залежыць абранне дэпутата, а ад каго не залежыць. І, на вялікі жаль, яно не залежыць ад выбаршчыкаў.

Такім чынам, што ў высновах? Дэпутаты нічога не вырашаюць, свае абяцанкі не выконваюць, іх прызначаюць, а не абіраюць. Навошта тады гэты цырк у выглядзе бачнасці выбараў?

Можа, мы хочам нешта некаму прадэманстраваць? Напрыклад, сумленныя і празрыстыя выбары Еўропе? Дык яны ўжо не сумленныя, бо праводзяцца з парушэннем вызначаных законам тэрмінаў.

Марнаваць грошы на выбары мае сэнс тады, калі яны — сапраўдныя. Калі ёсць сумленны падлік галасоў, калі дэпутаты сапраўды абіраюцца і адстойваюць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. А калі «дэпутат» — толькі назва для прызначанага чыноўніка, дык навошта нам такія выдаткі?

# Абаронцы Курапатаў: адміністрацыя «Поедем поедим» парушае закон «Аб правах дзіцяці»

НЧ

**Актывістка Курапацкай варты Ганна Шапуцька падрыхтавала зварот, у якім даводзіць, што дзеянні адміністрацыі рэстарана ствараюць умовы для асацыяльнага выхавання дзяцей.**

Ганна Шапуцька звяртае ўвагу, што асартыментны пералік рэстарану ўключае 16 відаў алкагольных напояў. Увесь інтэр'ер напоўнены рознымі дэкаратыўнымі элементамі з бутэлек гарэлкі і іншых спіртовых напояў, у галоўнай зале рэстарацыі вялікі бар з вітрынай з бутэлек розных формаў, напоўненых алкаголем.

Установа з некаторых часоў стала пазіцыянаваць сябе як «сямейны рэстаран», прапануючы паслугі па арганізацыі і правядзенні розных святаў, куды павесяліцца і адпачыць прыязджаюць дарослыя з дзецьмі, у асноўным малалетнімі. Пры гэтым яны знаходзяцца разам з дарослымі, якія ўжываюць алкаголь.

«Лічым, што дзеянні адміністрацыі рэстарана "Поедем поедим" ствараюць умовы для асацыяльнага выхавання дзяцей, парушаюць закон "Аб правах дзіцяці", у прыватнасці, артыкул 9: "дзяржава забяспечвае недатыкальнасць асобы дзіцяці, ажыццяўляе яго абарону ад далучэння да спіртовых напояў"; і артыкул 22 … "дзіця мае права на абарону ад інфармацыі, прапаганды, агітацыі, якія наносяць шкоду яго здароўю, маральнаму і духоўнаму развіццю"», — сказана ў звароце.

Актывісты Курапацкай варты просяць даць прававую ацэнку і праверыць законнасць дзеянняў адміністрацыі рэстарана «Поедем поедим», «спыніць практыку змяшчэння дзяцей у рэстаранную атмасферу п'янства і разгулу».

Таксама яны патрабуюць забараніць дарослым адпачываць у згаданай рэстарацыі разам з малалетнімі дзецьмі, бо там у прысутнасці дзяцей ажыццяўляюцца рэклама, рэалізацыя спіртовых напояў і тытунёвых вырабаў і іх ужыванне дарослымі.

Зварот падпісалі ўдзельнікі Варты ў Курапатах і неабыякавыя грамадзяне Беларусі. Дакумент будзе накіраваны пракурору Мінскага раёна, начальніку Мінрайвыканкама, старшыні ўпраўлення па адукацыі і старшыні аддзела сацыяльнай і выхаваўчай работы.

# Фільм па сцэнары Алеся Адамовіча назвалі лепшым у ЗША

**Амерыканскі рэсурс Screen Rant, асноўная тэма якога — кіно, склаў уласны рэйтынг дзесяці лепшых фільмаў пра Другую сусветную вайну. Лепшай прызналі кінакарціну «Ідзі і глядзі» Элема Клімава, якую здымалі ў Беларусі.**



Аснова сюжэту — творы беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча «Хатынская аповесць», «Партызаны» і «Карнікі». Цікава, што спачатку сцэнар называўся «Забіць Гітлера» — Клімаў задумваў яго ў глабальным сэнсе як заклік забіць цёмны пачатак у першую чаргу ў сабе.

Дзеянне фільма разгортваецца на тэрыторыі Беларусі ў 1943 годзе. Галоўны герой — беларускі хлопчык Флёр (памяншальнае ад Фларыян) — няглеудзячы на пратэсты маці, сыходзіць у партызанскі атрад. Камандзір атрада, каб зберагчы падлетка, пакідае яго пры гаспадарчым узводзе. Флёр перажывае ўсе страхі таго часу і на другі дзень з'яўляецца ў кадры з тварам старога, скажоным жахам і болем.

Запуск фільма ў вытворчасць пачаўся ў 1977 годзе. Над ім працавалі кінастудыі «Беларусьфільм» і «Масфільм», а на экраны ён выйшаў летам 1985 года. Як пазней распавядаў Клімаў, за мяжой кіно зрабіла на гледачоў такое моцнае ўражанне, што падчас сеансаў дзяжурылі карэты «хуткай», і лекары дапамагалі занадта ўражлівым людзям.

**Паводле kyky.org**

# Арышт за чыстую паперу: пракуратура праблем не бачыць?

**Актывістка Анастасія Гусева звярнулася да пракурора Мінска, каб той прыняў захады па яе незаконнаму затрыманню за чысты ліст паперы ў лютым гэтага года. І адрэагаваў на адпіску пракурора Заводскага раёна Мінска.**

У лютым гэтага года Анастасія Гусева разам з Дзмітрыем Паліенкам, які цяпер знаходзіцца ў мінскім СІЗА-1 па падазрэнні ў здзяйсненні шэрагу злачынстваў, сфатаграфаваліся з белым лістом паперы на фоне будынка Заводскага РУУС Мінска. Паліенка, дамаляваўшы ў фотарэдактары два надпісы на лістах, размясціў гэтую фатаграфію ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте».

Актывістаў выклікаў участковы, а калі Анастасія Гусева з'явілася да яго, яе адразу затрымалі і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання ГУУС Мінгарвыканкама — да суду.

Праз двое сутак суд Заводскага раёна Мінска, разглядзеўшы адміністрацыйную справу па ч. 3 арт. 23.34 КаАП (Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў) у дачыненні да актывістаў, вярнуў справу на дапрацоўку ў Заводскае РУУС. Праз месяц суд спыніў справу ў дачыненні да актывістаў у сувязі з недаказанасцю віны. Цяпер Анастасія Гусева мае права звярнуцца ў суд па кампенсацыю з-за незаконнасці дзеянняў органаў унутраных спраў.

Анастасія Гусева абскардзіла незаконнае затрыманне і ўтрыманне яе ў ІЧУ ў пракуратуры Заводскага раёна Мінска. Але пракурор Заводскага раёна адказаў, што Гусева парушыла парадак правядзення пікетавання.

Юрыст «Вясны» Аляксей Лойка, які дапамагаў Анастасіі Гусевай складаць скаргу, адзначае, што «такі падыход да разгляду скаргі пракурора не вытрымлівае ніякай крытыкі». Па-першае, устанаўліваць факт парушэння заканадаўства ўпаўнаважаны толькі суд. Відавочна, што пракуратура такім органам не з'яўляецца. Па-другое, Гусева прасіла пракуратуру Заводскага раёна правесці праверку па факце парушэння яе правоў менавіта падчас вядзення адміністрацыйнага працэсу. Аднак пракурор ніякім чынам не ацаніў неабходнасць затрымання актывісткі на двое сутак у ІЧУ.

Аляксей Лойка таксама звяртае ўвагу, што пракуратура, якая па сутнасці закліканая ажыццяўляць нагляд за выкананнем гарантаваных дзяржавай правоў і свабодаў грамадзян, замацаваных у Канстытуцыі, законах Беларусі і міжнародных дамовах, ніяк не адрэагавала на парушэнне канстытуцыйных правоў Гусевай у гэтай сітуацыі: права на свабоду і асабістую недатыкальнасць, права на свабоду перамяшчэння. Таму можна зрабіць выснову, што па першапачатковай скарзе Гусевай пракурорскай праверкі па сутнасці не праводзілася.

Для аднаўлення справядлівасці Анастасія Гусева звярнулася ў вышэйстаячы орган — да пракурора горада Мінска. Яна просіць, каб ён усё ж праверыў законнасць і абгрунтаванасць затрымання яе на двое сутак у сувязі з фотаздымкамі, размешчанымі ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте». Акрамя гэтага, актывістка просіць ацаніць і адказ пракурора Заводскага раёна Мінска. Гусева спадзяецца, што пракурор Мінска прыме адпаведныя меры пракурорскага рэагавання.

**Паводле spring96.org**

# Як «Ай Пауэр» сплаўляла атрутны свінец

Сяргей ПАКРОЎСКІ

**Прыпыненне будаўніцтва акумулятарнага завода ў Брэсце і наступны за гэтым арышт кіраўнікоў кампаніі-інвестара справакавалі хвалю праверак на іншых прадпрыемствах «Ай Пауэр». Як высветлілася, кампанія даўно не чыстая перад чысцінёй прыроды.**

Як распавялі карэспандэнту «Салідарнасці» супрацоўнікі завода «БІТ-сплаў» у Белаазёрску, ужо другі месяц па прадпрыемстве ходзяць чуткі ў пагонах, гавораць з кіраўніцтвам, вывучаюць дакументы. Па горадзе паўзуць чуткі, што завод могуць і зусім закрыць. Афіцыйныя асобы пакуль ад каментараў устрымліваюцца.

Прадпрыемства ў Белаазёрску кампанія «Ай Пауэр» пачала будаваць у 2012 годзе. Тады жыхары 12-тысячнага гарадка, як і брэстаўчане з нагоды акумулятарнага завода, таксама выступілі з пратэстам. Яны сцвярджалі, што грамадскае абмеркаванне праекта было праведзенае фармальна, з парушэннямі закона. Незадаволенасць вылілася ў збор подпісаў пад петыцыяй, якую ў выніку так нікуды і не адправілі. А самі пратэсты апынуліся нешматлікімі і хутка сышлі на нішто.

Аднак падчас будаўніцтва ў Мінпрыроды паўсталі пытанні да «Ай Пауэр». Працы на некаторы час прыпыняліся, але ў 2014 годзе завод у Белаазёрску ўсё ж прыступіў да працы. Ад брэсцкага «малодшага брата» «БІТ-сплаў» адрозніваецца тым, што бярэ на перапрацоўку старыя акумулятары і выплаўляе чысты свінец. Адкіды вытворчасці, па праекце, павінныя таксама перапрацоўвацца альбо дзесьці захоўвацца. Але гладка было на паперы.

Амаль два гады таму пракуратура Брэсцкай вобласці праводзіла праверку ў дачыненні да двух індывідуальных прадпрымальнікаў з Бярозы, што вывозілі свінцовыя адкіды «БІТ-сплаву» ва ўрочышча «Зялёны Бор» пад Івацэвічамі. За пару гадоў яны вывезлі і пахавалі ў лесе 8000 тон небяспечнага рэчыва — 400 вялікагрузных МАЗаў. У аднаго з ІП Дзмітрыя Рудскага меўся дазвол ад Мінпрыроды на працу са свінцовымі адкідамі і дамова з «БІТ-сплавам». Яго стрыечны брат Сяргей Жуковіч (таксама «іпэшнік») дапамагаў Дзмітрыю.

«БІТ-сплаў» пералічыў братам за гэтую паслугу 470 тысяч долараў. Па дакументах усе гэтыя адкіды адпраўляліся ў Расію ў якасці дадаткаў для вытворчасці асфальту. Вясной 2017-га Следчы камітэт распачаў у дачыненні да Рудскога і Жуковіча крымінальныя справы — найперш за ўхіленне ад выплаты падаткаў, потым — за парушэнне правілаў бяспекі падчас аперацый з экалагічна небяспечнымі рэчывамі.

Пасля гэтага браты з'ехалі ў Расію. Неўзабаве крымінальную справу прыпынілі, і іх фігуранты вярнуліся ў Бярозу. «БІТ-сплаў», тым часам, вымушаны быў выдаткаваць яшчэ 2 мільёны долараў на тое, каб вывезці з Зялёнага Бору і ўтылізаваць свінцовыя адкіды — па патрабаванні пракуратуры і абласнога камітэта прыродных рэсурсаў.

Якім чынам прадпрымальнікі маглі атрымаць кантракт амаль на паўмільёна долараў, для грамадскасці пакуль застаецца загадкай. Магчыма, на гэтае пытанне адкажуць следчыя з адпаведных органаў, якія працуюць зараз на «БІТ-сплаве».

Месца ў Зялёным Бары, куды першапачаткова звозіліся і хаваліся небяспечныя свінцовыя адкіды, было цалкам ачышчанае ад іх і пасыпанае пяском. Ніякіх прэтэнзій да кіраўнікоў «БІТ-сплаву» больш не выстаўлялася. Да ліпеня 2019 года, калі Генпракуратура зноў пачала праверку па гэтым факце.

Як паведаміла афіцыйная крыніца ў Генпракуратуры Беларусі, праверка вядзецца па даручэнні кіраўніка краіны. Многія працоўныя завода гэты факт успрынялі з насцярожанасцю. Яны лічаць, што праблема з адкідамі так ці інакш вырашылася, і гэтыя адкіды ўжо не ўяўляюць пагрозы для навакольнага асяроддзя. А калі закрыюць завод, ім давядзецца шукаць новае месца працы, што ў невялікім мястэчку не так проста.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



Фота www.mtbank.by

# Дамадэрнізаваліся

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нядаўна ехаў я на працу — і мой позірк зачапіўся за рэкламу: «Набывайце зараз, плаціце праз два месяцы!» Рэклама не арыгінальная — ці мала зараз крамаў прадаюць тавар з растэрміноўкай. Здзівіў асартымент — у растэрміноўку прапанавалася набыць... асадкі і школьныя сшыткі! Гэта ж да чаго трэба давесці краіну, каб на капеечныя школьныя прыналежнасці трэба браць растэрміноўку!**

Многія бацькі зараз заклапаціліся зборам дзетак у школу. Гэта адбываецца кожны год, і кожны год яны ўздрыгваюць. А чыноўнікі ўвесь час спрабуюць іх заспакоіць.

Як распавяла нядаўна намесніца начальніка ўпраўлення арганізацыі гандлю і грамадскага харчавання — начальнік аддзела спажывецкага рынку Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Наталля Мельнікава, цяпер па ўсёй краіне тавары для школьнікаў прадаюць каля 6 тысяч гандлёвых аб'ектаў. Пашыраны гандаль школьнымі таварамі пачаўся з 15 ліпеня і працягнецца да 1 кастрычніка.

У рэгіёнах краіны працуе больш чым 500 школьных кірмашоў, праходзяць выставы-продажы. Там можна купіць усё неабходнае — ад алоўкаў да заплечніка і школьнай формы.

«Беллегпрам» паведаміў, што прадпрыемствы канцэрна на 70% абнавілі асартымент адзення для школьнікаў. Да навучальнага года выпушчана 360 мадэляў прадметаў гардэроба школьніка, з якіх 300 — новыя. 60 з тых, што засталіся, — мадэлі, якія ў мінулым годзе карысталіся вялікім попытам у пакупнікоў, таму іх было вырашана пакінуць.

Вытворцы дзіцячага абутку прапанавалі 226 новых мадэляў туфляў і чаравік для хлопчыкаў і дзяўчынак.

Але тая ж Мельнікава зазначыла: у гэтым годзе «аптымальная экіпіроўка, уключаючы адзенне, абутак, галантарэйныя тавары, школьныя пісьмовыя і канцылярскія прылады, для вучняў малодшых класаў абыдзецца ў суму да 750 рублёў, для старэйшых класаў — да 890».

То-бок, ад 350 да 450 долараў! У той час, як «нядрэнныя» заробкі ў рэгіёнах складаюць 250–300 долараў. Гэта значыць, каб «аптымальна» (не максімальна!) сабраць адно дзіця ў школу, бацькам давядзецца развітацца з месячным сямейным бюджэтам. А калі дзяцей двое-трое? І ўсе яны ў дадатак хочуць есці?

І пры гэтым нашая ўлада ўвесь час кажа пра «дэмаграфічную бяспеку» і патрабуе нараджаць дзяцей яшчэ і яшчэ. А годных заробкаў, каб іх накарміць і апрануць, пакуль што не прадбачыцца.

Заробкі — ладна, грошай заўсёды мала. Але за апошняе дзесяцігоддзе мы багата чулі пра мадэрнізацыю прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, заводаў па вытворчасці паперы і цэлюлозы і гэтак далей. Дык у што вылілася гэтая мадэрнізацыя — у падаражанне прадукцыі? Падаецца, павінна было б быць наадварот. А калі людзям ад той мадэрнізацыі толькі горш становіцца — ці была яна патрэбная ўвогуле? І чаму пры «мадэрнізацыі» Добрушскай папяровай фабрыкі ці будаўніцтве Светлагорскага цэлюлознага камбінату людзі вымушаныя купляць сшыткі ў растэрміноўку?

Зразумела, бацькі неяк выкручваюцца: шукаюць падпрацоўку, нехта спрабуе зарабіць на ўласных падворках. Але і з гэтым праблемы. Напачатку лета ў Лунінецкім раёне ў чэрвені цэны на трускаўку ў вытворцаў знізіліся да 20 капеек за кілаграм. Гэтыя кошты не акупілі працу, таму некалькі вёдраў людзі высыпалі прама пад ногі скупшчыкам. Здымкі трапілі ў інтэрнэт, іх пабачыў кіраўнік краіны і выказаў сваё абурэнне. Сітуацыю тэрмінова выправілі.

Зараз аналагічная праблема ўзнікла ў жыхароў Столінскага раёна: закупачныя цэны ўпалі да 30 капеек за кілаграм памідораў. І нават пры такіх цэнах прадаць ураджай немагчыма, таму што няма пакупнікоў.

«Трэба зрабіць так, як зрабілі ў Лунінецкім раёне з трускаўкай. Вывезці прадукцыю на сметнік і выставіць фота ў інтэрнэт. Можа быць, тады ўрад зверне ўвагу на праблему вяскоўцаў і пачне вырашаць пытанні з будаўніцтвам у краіне перапрацоўчых заводаў», — заяўляюць фермеры.

Але ж у крамах зараз таматы — зусім не па 30 капеек. І яны чамусьці не беларускія — польскія, іспанскія, турэцкія — якія заўгодна. Айчынных — малавата. Пры гэтым у краіне безліч чыноўнікаў і кантралюючых органаў, якія, нібыта, павінны глядзець за прыярытэтам беларускіх вытворцаў — той жа МАРГ, напрыклад.

Больш за тое — у нас існавала адпаведная праграма па пабудове перапрацоўчых прадпрыемстваў садавіны і гародніны! Іх абяцалі мадэрнізаваць яшчэ ў 2009 годзе, а тагачасны прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі і ўвогуле заяўляў пра пабудову 12 (!) новых (!) заводаў па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. Дзе гэта ўсё? І куды падзеліся грошы, выдаткаваныя на будоўлю прадпрыемстваў, калі іх дагэтуль не хапае?

Між тым, нягледзячы на надзённыя і вельмі важныя праблемы, краіна працягвае «шыкаваць». Раней былі Еўразійскія гульні, ваенныя парады, Купаллі. Днямі нас ашчаслівілі яшчэ і тым, што Лукашэнка абмеркаваў падрыхтоўку да будаўніцтва ў Мінску нацыянальнага футбольнага стадыёна і басейна міжнароднага стандарту. А таксама ў нас неўзабаве будзе і чарговае «свята» — датэрміновыя (што б там ні казалі) выбары ў Палату прадстаўнікоў.

Самае цікавае, што гэтыя выбары па плане павінны былі прайсці ў 2020 годзе, а таму ў бюджэце сродкаў на іх правядзенне сёлета не прадугледжана. Ва ўказе Лукашэнкі аб прызначэнні выбараў Савету Міністраў прадпісана забяспечыць фінансаванне расходаў «за кошт сродкаў бюджэту, прадугледжанага на іншыя агульнадзяржаўныя пытанні». Па словах кіраўніцы ЦВК Лідзіі Ярмошынай, выбары будуць каштаваць краіне прыкладна 23 мільёны рублёў.

Таму дзяржава і спрабуе выцягнуць грошы на свае «святы» з гаманцоў грамадзян — а адкуль іх узяць яшчэ? Напрыклад, ДАІ пачынае аперацыю «Тэхагляд» — праверкі тэхагляду, верагодна, пройдуць па ўсёй краіне. МУС паведамляе, што яны будуць адбывацца «ў розных населеных пунктах». А паколькі тэхагляд звязаны з непадымным транспартным падаткам, шмат хто ездзіць без яго — і будзе вымушаны заплаціць даволі сур'ёзныя штрафы.

Нягледзячы на тое, алкагалізацыя ў Беларусі даўно стала вялікай праблемай, Лукашэнка ўказамі ад 5 жніўня дазволіў гандаль алкаголем і цыгарэтамі з крамаў duty free на борце самалётаў. Што, безумоўна, не дадасць бяспекі палётам.

Гэтак мы «дамадэрнізуемся» да поўнай галечы. Хаця, калі ўжо сшыткі прадаюцца «ў крэдыт» — куды далей?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алег Трусаў

**На гэтым тыдні гісторык, грамадскі дзеяч і экс-старшыня «Таварыства беларускай мовы» адзначыў сваё 65-годдзе, з чым «Новы Час» яго і віншуе.**



Алег Трусаў нарадзіўся 7 жніўня 1954 года, у 1976 годзе скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1976 па 1992 год працаваў у Беларускім рэстаўрацыйным праектным інстытуце загадчыкам аддзела комплексных навуковых даследаванняў. У 1981 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1996 да сакавіка 1998 года — дэкан факультэту бібліятэчна-інфармацыйных сістэм Беларускага ўніверсітэта культуры. У 1990 годзе быў адным з заснавальнікаў Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

У 1990–1995 гадах – дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання, намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і ахове гістарычнай спадчыны. Прымаў удзел у абвяшчэнні дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь, адзін з распрацоўшчыкаў афіцыйнай выявы дзяржаўнага гербу Рэспублікі Беларусь «Пагоня», бел-чырвона-белага дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і наверша да яго. Удзельнік галадоўкі дэпутатаў Апазіцыі БНФ 11–12 красавіка 1995 года супраць рэферэндуму аб скасаванні бел-чырвона-белага сцяга, гербу «Пагоні» ў якасці дзяржаўных сімвалаў і статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай.

У 1989 годзе Трусаў выступіў адным з заснавальнікаў ТБМ. У красавіку 1997 года абраны Рэспубліканскай Радай першым намеснікам старшыні ТБМ. 17 красавіка 1999 года абраны старшынёй арганізацыі, пакінуў пасаду ў 2017 годзе на карысць стварэння беларускамоўнага ўніверсітэту.

Аўтар больш чым 150 навуковых публікацый, сярод якіх некалькі манаграфій.

## Андрэа Віктарын

**Кіраўніца прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі завяршае сваю дыпламатычную місію ў нашай краіне на пазітыве. Бадай галоўнае яе дасягненне — маючае адбыцца візавае пагадненне паміж Беларуссю і ЕС.**



Калі гэтае пагадненне будзе падпісана, беларусы пачнуць плаціць за шэнгенскія візы ўдвая танней — 35 еўра. Скончыць унутрыведамасныя ўзгадненні пагаднення паміж ЕС і Беларуссю аб спрашчэнні візавага рэжыму «да восені» ёй паабяцаў асабіста прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Румас.

«Думаю, з нашага боку да восені мы скончым усе ўнутрыдзяржаўныя працэдуры для ўзгаднення дакумента. Вельмі спадзяюся, што ўвосень пагадненне будзе падпісана. Прынамсі, беларускі бок будзе рабіць усё для таго, каб гэта падзея адбылася», — заявіў Румас.

Гаворачы аб супрацоўніцтве Беларусі і ЕС, Румас назваў прыярытэтнымі завяршэнне перамоваў па ўступленні Беларусі ў СГА і развіццё крэдытна-інвестыцыйнага супрацоўніцтва з еўрапейскімі інстытутамі. Паводле слоў прэм'ера, Беларусь плануе да міністэрскай сустрэчы СГА ў чэрвені 2020 года ў Казахстане завяршыць усе перамовы па ўступленні ў арганізацыю.



## Леанід Гарай

**Легендарны беларускі футбаліст памёр ва ўзросце 82 гадоў. Пра смерць заслужанага трэнера БССР паведаміў сайт БФФ.**

Леанід Гарай — майстар спорту СССР (1967), заслужаны трэнер БССР (1983), нарадзіўся 13 студзеня 1937 года ў Гомелі. Выступаў за мінскія «Спартак» (1957–1959), і «Беларусь» (Мінск, 1961). Таксама ў яго кар'еры значацца мінская ФШМ (1956), СКА (Мінск, 1962–1963), «Спартак» (Брэст, 1964–1965).

Скончыўшы кар'еру гульца, Гарай трэніраваў брэсцкі «Спартак» (1966–1970), быў дырэктарам брэсцкай СДЮСШАР-5 (ліпень 1970 – студзень 1978). Летам 1978 года Гарай вярнуўся ў мінскае «Дынама», быў кіраўніком каманды з 1978 па 1992 год і старшынёй клуба з верасня 1992 па сакавік 1996 года. Менавіта ў гэты перыяд «бела-блакітныя» дасягнулі ўсіх значных вяршынь, выйграўшы чэмпіянат СССР 1982 года, бронзу 1983-га, рэгулярна выйгравалі чэмпіянат і неаднаразова Кубак Беларусі.

# Хатні гвалт: нацыянальная праблема, што замоўчваецца

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Сто дваццаць тысяч на год, то-бок, прыкладна 329 выпадкаў штодня. Менавіта столькі выпадкаў хатняга гвалту фіксуе міліцыя. Адмыслоўцы кажуць, што гэта толькі вяршыня айсбергу, бо не кожная ахвяра звяртаецца па дапамогу ў органы МУС. Лічбы ўражваюць, і з іх зразумела, што хатні гвалт для нашай краіны — праблема нацыянальная.**

Між тым, праект канцэпцыі закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту быў адхілены па адным выказванні Аляксандра Лукашэнкі. «Новы Час» пагутарыў з Ганнай Коршун, кіраўніцай Агульнанацыянальнай гарачай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту 8-801-100-8-801.

Мы пачалі з некалькіх зусім не гіпатэтычных сітуацый.

*— Сітуацыя першая. 44-гадовы віцябляніn ледзьве не забіў сваю сужыцельку. Праз два месяцы ён зноў паспрабаваў напасці на яе — ужо побач з яе працай. Жанчыну выратавалі мінакі. Але ён усё роўна яе пераследаваў і напаў зноў. Жанчына выклікала міліцыю, але гэта гвалтаўніка не спыніла. Ён парэзаў яе нажом, а выратавалася жанчына таму, што прыкінулася мёртвай. Як павінна была паводзіць сябе жанчына, каб прадухіліць гэтую сітуацыю?*

— На вялікі жаль, адмысловага закона пра супрацьдзеянне хатняму гвалту ў нас няма. Гэта выпадак пераследу, альбо «сталкінгу». Само паняцце «сталкінгу» ў нашым заканадаўстве адсутнічае, і, адпаведна, адсутнічае пакаранне за навязлівы перaслед. Але ў любым выпадку жанчыне трэба было звярнуцца ў міліцыю, і ўжо задача міліцыі — знайсці склад правапарушэння. І, канешне ж, трэба было звяртацца па дапамогу ў розныя грамадскія і недзяржаўныя арганізацыі.

З практыкі нашай «гарачай лініі» мы ведаем, што «сталкінг» — вельмі траўматычны від гвалту. Наступствы яго жанчынам даводзіцца вельмі доўга прапрацоўваць з псіхолагамі. Таму ў гэтым выпадку ў першую чаргу трэба звяртацца ў міліцыю з заявай пра тое, што яе пераследуюць і ствараюць дыскамфорт. Другое — звяртацца па дапамогу да кваліфікаваных спецыялістаў, псіхолагаў, якія могуць дапамагчы. Часцяком справіцца з цяжкім псіхалагічным станам, які з'яўляецца вынікам гэтай сітуацыі, жанчыне самой вельмі складана.

***— Ці можа міліцыя неяк абараніць жанчыну паводле існуючага заканадаўства?***

— Калі пераследнік не здзяйсняе ніякіх спробаў фізічнага ўздзеяння, замаху на жыццё ахвяры, не парушае грамадскі парадак, не зневажае жанчыну — гэта складана. Зыходзячы з сённяшняга заканадаўства, такія дзеянні не з'яўляюцца супрацьпраўнымі і не караюцца законам. За нешта можна зачапіцца.

Але кожны выпадак індывідуальны, кожны з прыкладаў можна разглядаць па-рознаму, тым больш, з дапамогай юрыстаў.

***— А калі б у нас быў закон па супрацьдзеянні хатняму гвалту?***

— Тое, што сёння ёсць у нашым заканадаўстве, якім кіруюцца ў тым ліку і органы ўнутраных спраў, — гэта закон аб прафілактыцы правапарушэнняў, які ўтрымлівае шэраг мераў адміністрацыйнай адказнасці ў дачыненні да вінаватага ў хатнім гвалце. Гэта прафілактычная размова, прафілактычны ўлік і абарончае прадпісанне. У залежнасці ад правапарушэння, ахвяра можа разлічваць на адзін з відаў такога пакарання злачынцы.

Калі б у нас быў спецыялізаваны закон, у які было б унесенае паняцце пагрозы, пагрозы жыццю, — я думаю, што злачынца атрымаў бы як мінімум адміністрацыйнае пакаранне за пераслед.

Апроч таго, канцэпцыя закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту, якая была раскрытыкаваная і не прынятая, мела такое палажэнне, як карэкцыйная праца з усімі вінаватымі ў хатнім гвалце. Важна не проста тое, каб вінаваты атрымаў нейкае пакаранне — адміністрацыйнае альбо крымінальнае, — важна, каб ён прайшоў спецыялізаваную карэкцыйную праграму. Бо няма гарантыі, што, калі агрэсар адбудзе пакаранне, ён не знойдзе новую ахвяру і не працягне свае супрацьпраўныя дзеянні.

***— Выпадак другі. Муж і жонка выпілі, муж абвінаваціў жонку ў здрадзе, а потым і пабіў. Жанчына схапілася за нож і папярэдзіла, што будзе абараняцца, мужа гэта не спыніла. Вынік — муж у бальніцы з цяжкім раненнем, жонка пад следствам. Па-мойму, якраз той выпадак, калі псіхалагічны гвалт (абвінавачванні), перайшлі ў гвалт фізічны, што прывяло да абароны, і вынік сумны для абодвух. Так?***

— На мой погляд, ніколі не трэба разглядаць выпадак хатняга гвалту толькі ў адным эпізодзе. Бо, калі мы кажам пра хатні гвалт, канкрэтна вось гэтаму эпізоду магло папярэднічаць шмат іншых дзеянняў. Калі мы кажам пра хатні гвалт, мы заўсёды заўважаем, што гэтая з'ява цыклічная ў часе, што з часам гвалт становіцца больш жорсткім і цяжкім, і самі формы ўздзеяння на пацярпелую з кожным разам становяцца больш цяжкімі.

На мой погляд, вялікая памылка СМІ — яны апісваюць сітуацыю хатняга гвалту, вырываючы адзін эпізод з кантэксту жыцця сям'і. Муж з жонкай выпілі, здарыўся сямейна-побытавы канфлікт — гэта эпізод. Але мы не ведаем, што адбывалася да таго. Можа, такое ўжо было, і жанчына ведала, што абвінавачванні яе ў здрадзе скончацца збіццём, таму і наважылася абараняцца. Мы не можам казаць, што папярэднічала дзеянням пацярпелай.

Статыстыка органаў МУС кажа: сёння ў калоніях адбываюць пакаранне вельмі шмат жанчын, што выкарыстоўвалі такія метады самаабароны, у выніку якіх гвалтаўнік загінуў.

Што тычыцца псіхалагічнага гвалту, то, зноў жа, па досведзе нашай «гарачай лініі» я магу сказаць, — ён вельмі траўматычны. Шмат нашых абанентак кажуць, што «лепш бы ён мяне біў». Псіхалагічны гвалт знясільвае, выводзіць, часцяком жанчыны кажуць, што стаміліся чуць пастаянныя абвінавачванні ў свой адрас, знявагі, скаргі, абразы. Гэта вельмі траўматычна, асабліва калі доўжыцца на працягу не аднаго года. А некаторыя цярпяць псіхалагічны гвалт дзесяцігоддзямі!



Ганна Коршун

І частка жанчынаў пачынаюць думаць пра суіцыд, і нават ажыццяўляюць такія спробы.

Увогуле, калі ў сям'і ёсць гвалт, то нельга вылучыць нейкі яго пераважны від. Хатні гвалт — гэта комплексная праблема, шматгранная. Калі ёсць фізічны гвалт — абавязкова будзе і псіхалагічны. Калі ёсць псіхалагічны гвалт, будзе, з вялікай доляй верагоднасці, фізічны. Проста іншым разам жанчыны яго не ідэнтыфікуюць.

Некаторыя пацярпелыя тэлефануюць і кажуць, што хочуць проста паразмаўляць, ім цяжка, ім падаецца, што яны ў дэпрэсіі, але фізічнага гвалту не было. Але, калі яны паразмаўляюць з кансультантам-псіхолагам, становіцца больш адкрытымі, высвятляецца: элементы фізічнага гвалту ўсё ж былі — ёй давалі пляскача, моцна штурхалі, спрабавалі прыдушыць...

У паняцці абывацеля «хатні гвалт» і «фізічны гвалт» — гэта толькі тады, калі ўжо нейкія скрайнія праявы, моцныя траўмы, пераломы і гэтак далей. Але тыя самыя штуршкі і пляскачы — гэта таксама дзеянні фізічнага характару, якія прыніжаюць гонар і годнасць асобы. Гэта таксама фізічны гвалт.

Калі ёсць псіхалагічны гвалт — можа быць і эканамічны гвалт. Іншым разам жанчыны кажуць, што ёсць і фізічны, і сексуальны гвалт. Сексуальны гвалт паміж мужам і жонкай, у стасунках, у пары — гэта ўвогуле вельмі табуяваная ў нас тэма. Усе разглядаюць сексуальныя адносіны як праяву шлюбнага абавязку.

У нас было тэлефанаванне, калі жанчыну збіў яе былы муж, з якім яна была разведзеная, але пражывала ў адным доме. Ён яе не толькі збіў, але і згвалціў. Яна выклікала міліцыю, расказала ім пра збіццё, але не сказала пра згвалтаванне. На пытанне, чаму яна пра гэта не паведаміла, яна шчыра здзівілася: хаця зараз яны развяліся, раней жа яны былі мужам і жонкай, хіба ў яе прынялі б заяву пра згвалтаванне?

Часцяком беларусы не ведаюць сваіх правоў, не ведаюць, як іх абараніць, у іх нізкая юрыдычная і псіхалагічная культура. Мы часцяком, усведамляючы абмежаванні тэлефоннага кансультавання і дапамогі, перанакіроўваем людзей у іншыя грамадскія і дзяржаўныя структуры, дзе людзі могуць атрымаць дапамогу псіхолага ці псіхатэрапеўта. А нам адказваюць: «У мяне з галавой усё добра, навошта мне псіхатэрапеўт ці псіхіятр»...

Людзі не ведаюць законаў, не ведаюць сваіх правоў, не ведаюць, як свае правы можна абараніць ці адстаяць. З гэтым нам таксама даводзіцца працаваць.

***— Вы казалі, што гвалт — цыклічны, і з кожным разам ён становіцца ўсё часцейшым, больш жорсткім і больш цяжкім. Ці ёсць магчымасць выйсці з гэтага цыклу?***

— Для таго, каб перарваць гэты цыкл, ёсць два спосабы. Першы — фізічнае аддзяленне пацярпелай ад агрэсара. Іншым разам гэта спрацоўвае, іншым — не. Другі варыянт — тэрапеўтычная праца з пацярпелай і карэкцыйная праца з агрэсарам. Другі варыянт даволі паспяхова праводзіцца ў перадавых краінах, дзе ёсць развітае заканадаўства, што абараняе пацяр-

пелых ад хатняга гвалту. Не ўсе пацярпелыя ад хатняга гвалту маюць час, рэсурсы і выказваюць гатоўнасць сысці ад чалавека, ад якога церпяць гвалт. Не заўсёды гэта муж, жонка, альбо інтымны партнёр. Іншым разам гэта дочкі і сыны, бацькі, родныя. У гэтым выпадку фізічнае аддзяленне амаль немагчымае. Але, калі браць ідэальную сітуацыю — калі ахвяра звяртаецца па псіхатэрапеўтычную дапамогу, а вінаваты ў гвалце — па карэкцыйную праграму, то верагоднасць, што гвалт спыніцца — вельмі высокая.

Такія праграмы ёсць, напрыклад, у Аўстрыі. Тамтэйшыя эксперты кажуць, што ім атрымліваецца спыніць гвалт у 80% выпадках. З тых, хто прайшоў гэтую праграму ад пачатку да канца, толькі 20% вяртаюцца да гвалту ў адносінах. Рэалізацыя гэтых карэкцыйных праграм даказала сваю эфектыўнасць у краінах, дзе такія праграмы дзейнічаюць.

***— У канцэпцыі закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту была норма пра абавязковае прыцягненне агрэсара да праходжання карэкцыйнай праграмы. Але наколькі гэта будзе эфектыўна: карэктаваць паводзіны насуперак волі чалавека? Ці можна змяніць асобу, калі яна не жадае змяняцца?***

— На жаль, у нашай краіне мала спецыялістаў, якія працуюць па адмысловых карэкцыйных праграмах. Зараз яны працуюць толькі з тымі агрэсарамі, хто добраахвотна да іх звярнуўся, у той час, як у Германіі, Францыі суды выносяць пастановы пра абавязковае праходжанне карэкцыйнай праграмы.

Але нават людзі, якія прыйшлі на карэкцыю добраахвотна, не зусім усведамляюць, што яны здзяйсняюць нейкія супрацьпраўныя рэчы. Людзі, якія працуюць з агрэсарамі, кажуць, што хатні гвалт — гэта адносіны ўлады і кантролю. Вельмі прывабна ўладарыць над кімсьці, кантраляваць жыццё іншага чалавека. Таму добраахвотна асобы, якія прымяняюць гвалт да сваіх блізкіх, ад гэтага не адмаўляюцца. Часцей яны звяртаюцца па карэкцыйныя праграмы тады, калі адчуваюць, што пацярпелая з-за іх паводзінаў можа парваць з імі і сысці.

За час нашай працы ў нас таксама было некалькі дзясяткаў зваротаў ад агрэсараў, якія казалі, што баяцца згубіць жонку альбо каханую з-за таго, што яны ўжываюць гвалт, і пыталіся пра спецыялістаў, якія маглі б ім дапамагчы справіцца з агрэсіяй. Таму зварот па карэкцыйныя праграмы, як правіла, гэта не ўнутраная матывацыя, а знешняе стымуляванне.

Адмыслоўцы кажуць, што агрэсію можна параўнаць з залежнымі паводзінамі. Як людзі, што пакутуюць на алкагалізм, вельмі рэдка прызнаюць свае праблемы з алкаголем, і кажуць, што могуць спыніцца ў любы момант, так і агрэсары не бачаць праблемы ў сабе. Яны ўяўляюць, што праблема — у паводзінах пацярпелай. Маўляў, каб яна стала добрай, схуднела, лепей дагледала дзяцей, каб яна змянілася — яны б перасталі яе збіваць...

Але гэта не так. Некаторыя жанчыны, што скардзяцца нам на хатні гвалт, кажуць: у іх партнёраў гэта не першы шлюб. І што першы шлюб распаўся менавіта з-за гвалту. Калі яны ўступалі ў адносіны, то былі ўпэўненыя, што з імі такога не здарыцца, бо «першая жонка была дрэнная».

Прычынаў у хатняга гвалту няма, заўсёды ёсць нагода. Агрэсары вельмі рэдка ўсведамляюць, што яны здзяйсняюць злачынства альбо правапарушэнне, прычыняюць боль альбо шкоду іншаму. І калі не ўключаць карэкцыйныя праграмы, то гвалт можа паўтарацца і павялічвацца.

***— Наступны прыклад. Айчым збіваў дзяцей за дрэнныя ацэнкі ў школе, так, што парваў рэмень. Настаўнікі звярнулі ўвагу на пашкоджанні, дзяцей забралі, заведзеная крымінальная справа. Між тым, канцэпцыю закона пра хатні гвалт зарубілі пасля словаў Лукашэнкі пра тое, што добры рэмень часцяком неабходны. А саму канцэпцыю яе крытыкі назвалі «законам аб плескачах». Наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці і наколькі канцэпцыя насамрэч была засяроджана на правах дзіцяці?***

— Канцэпцыя тычылася дзяцей у найменшай ступені. У нас у заканадаўстве ёсць нарматыўныя акты, што абараняюць правы дзіцяці — напрыклад, той жа дэкрэт №18. Меркавалася, што закон будзе скіраваны найперш на паўналетніх, якія церпяць ад розных відаў хатняга гвалту.

У нас у заканадаўстве зараз ёсць паняцці фізічнага і псіхалагічнага гвалту, ёсць артыкулы, якія прадугледжваюць адказнасць за гэтыя віды гвалту. Але няма паняццяў эканамічнага гвалту, сексуальнага гвалту ў шлюбе, «сталкінгу», у склад сям'і не ўваходзяць былыя сужэнцы, якія жывуць на адной тэрыторыі... Усе гэтыя рэчы выпадаюць з прававога поля.

Канцэпцыя ўтрымлівала спасылкі на тое, што будзе прадугледжана пакаранне за фізічнае ўздзеянне на дзяцей. Гэта слушна, таму што дзеці, якія з'яўляюцца сведкамі хатняга гвалту, атрымліваюць не меншую траўму, яны перажываюць псіхалагічны гвалт.

Я думаю, тыя арганізацыі і людзі, якія выступілі за непрыняцце канцэпцыі, папросту знайшлі ў ёй зачэпку, якая выклікала грамадскі рэзананс. Але, паўтаруся, збольшага канцэпцыя была скіраваная на дарослых, а што да дзяцей — там у нас ёсць асобнае заканадаўства.

***— Паводле міліцэйскай статыстыкі, да іх паступае 120 тысяч паведамленняў пра хатні гвалт штогод. 50 тысяч выклікаюць рэакцыю — узбуджаюцца адміністрацыйныя справы, а 2,5 тысячы — крымінальныя. За 2017 год выдадзена 7 тысяч ахоўных прадпісанняў. Чаму больш за палову зваротаў да праваахоўнікаў заканчваюцца, фактычна, нічым?***

— У МУС самі кажуць, што часцяком ахвяры забіраюць заявы на агрэсараў. Зараз справы аб хатнім гвалце ў нас — справы прыватнага абвінавачвання, і ўзбуджаюцца, часцей за ўсё, па заяве пацярпелай. Калі яна забірае заяву, справа не ідзе ў ход.

Чаму ахвяры забіраюць заяву? Таму што гэта сутнасць хатняга гвалту. Хатні гвалт — гэта апрыёры залежнае становішча пацярпелай. Яна можа баяцца помсты з боку агрэсара, яна можа быць ад яго у залежным стане, псіхалагічна і эканамічна. Часцяком людзі ўсведамляюць, што агрэсара пакараюць штрафам, а калі агрэсар не працуе, штраф за яго будзе сплачваць ахвяра. Ці судовы выканаўца вынесе з дому што-небудзь з «агульнай маёмасці. Жанчыны вельмі баяцца, што іх паставяць на ўлік як нядобранадзейную сям'ю, вызначаць, што дзеці ў такой сям'і знаходзяцца ў «сацыяльна небяспечным становішчы» — ад гэтага адзін крок да адабрання дзяцей у прытулак... Для каго тады пакаранне — для агрэсара ці ахвяры?

У міліцыі такіх выклікаў багата, бо міліцыя — гэта першая «кропка ўваходу» ў сістэму дапамогі. Да міліцыі звяртаюцца ахвяры, калі адчуваюць страх, небяспеку за жыццё, калі хочуць фізічнай абароны. А калі «востры перыяд» здымаецца і ад пачуццяў пераходзіць да рацыянальнага — ахвяра не заўсёды дае працяг сваёй заяве.

**Агрэсію можна параўнаць з залежнымі паводзінамі. Як людзі, што пакутуюць на алкагалізм, рэдка прызнаюць свае праблемы, так і агрэсары не бачаць праблемы ў сабе. Яны ўяўляюць, што праблема — у паводзінах пацярпелай. Але гэта не так**

***— Што можна было б зрабіць, каб жанчыны не баяліся агрэсараў і настойвалі на іх пакаранні?***

— Для гэтага і патрэбны спецыялізаваны закон аб супрацьдзеянні хатняму гвалту. Канцэпцыя закона прадугледжвала пераход гэтых спраў з катэгорыі прыватнага абвінавачвання ў абвінавачванне прыватна-публічнае, калі пацярпелай нават не спатрэбіцца пісаць заяву на агрэсара. Бо цяпер нават такая перадавая рэч, якая ёсць у нашым заканадаўстве — ахоўнае прадпісанне, — усё роўна выносіцца са згоды пацярпелай. Ахвяра павінна напісаць заяву, каб агрэсара аддалілі ад яе на тэрмін ад 3 да 30 сутак. Калі яна не напіша — гэтага не адбываецца.

То-бок, пацярпелая павінна пагадзіцца, каб яе абаранілі! І яна сама павінна прыняць для гэтага захады, рызыкуючы нарвацца на помсту агрэсара. А калі б такія справы былі прыватна-публічнымі, яе маглі б абараніць і без напісання заявы.

Цяпер, каб атрымаць ахоўнае прадпісанне, агрэсар павінен два разы на працягу года прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці. У канцэпцыі закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту прадугледжваўся «тэрміновы ахоўны ордэр», які ёсць у іншых краінах — калі супрацоўнік МУС адразу ізалюе ахвяру ад агрэсара. Ён даваў бы магчымасць міліцыянтам аператыўна рэагаваць на сітуацыі хатняга гвалту.

Хатні гвалт — гэта вельмі латэнтная праблема. Шмат людзей церпяць гвалт і маўчаць, таму што ім сорамна, страшна. І тое, што рэгіструецца, — гэта толькі вяршыня айсбергу.

***

Канцэпцыю закона пра супрацьдзеянне хатняму гвалту «зарэзалі» пасля вядомага выказвання Лукашэнкі. ***«Усё гэта дурнота, узятая перш за ўсё з Захаду... Трэба выходзіць з той сітуацыі, якая ў нас складваецца. Добры рэмень часам таксама карысны для дзіцяці... Гэта наша традыцыя, наша жыццё, і мы будзем выхоўваць так, як трэба»,*** — сказаў Лукашэнка.

Але ніхто не згадвае, што ён казаў і адваротнае. Калісьці Лукашэнка ставіў Генеральнай пракуратуры рэспублікі задачу разабрацца з сітуацыяй з хатнім гвалтам, што склалася ў краіне. ***«Мы не можам дапусціць, каб нейкі бандзюган здзекаваўся з дзяцей у сям'і, з жанчыны, не можам. Гэтаму павінен, Аляксандр Уладзіміравіч, быць пакладзены канец»,*** — сказаў Лукашэнка, звяртаючыся да генеральнага пракурора Беларусі Канюка.

***«Рабіце што хочаце там. Павыкручвайце ім рукі і паадсякайце рукі. Гэта ж не справа, што дзеці баяцца дадому ісці, таму што там завёўся япрук, які тэрарызуе сям'ю»,*** — заяўляў ён.

Дык якімі ж словамі Лукашэнкі трэба кіравацца?

*__P.S.__ Усе прыклады крымінальнай хронікі рэальныя і ўзятыя з навінавых зводак усяго за пяць дзён: з 27.06 па 02.07.*

*__P.P.S.__ Арганізацыі, што дапамагаюць ахвярам хатняга гвалту:*

*8-801-100-8-801 — агульнанацыянальная гарачая лінія для пацярпелых ад хатняга гвалту. Працуе штодня з 8.00 да 20.00. Прызначана для паўналетніх жыхароў Беларусі, якія сутыкнуліся з гвалтам у сям'і. Абаненты, што звярнуліся на лінію, могуць атрымаць сацыяльную, псіхалагічную, юрыдычную дапамогу цалкам бясплатна, канфідэнцыйна і ананімна. Лінію адмініструе міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Гендарныя перспектывы».*

*+375 29 610 83 55 — тэлефон тэрміновай дапамогі для размяшчэння ў прытулку ГА «Радзіслава» для жанчын і дзяцей, пацярпелых ад гвалту. Кругласутачна.*

*+375 29 756 35 24 — крызісная лінія для пацярпелых ад гвалту жанчын БЖСГА «Правінцыя».*

*+375 33 603 20 32 — ГА «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын», падтрымка і дапамога ў распрацоўцы далейшых дзеянняў у крызіснай сітуацыі.*

*+375 29 635 56 62 — цэнтр па прасоўванні правоў жанчын «Яе правы». Юрыдычная дапамога ахвярам хатняга гвалту.*



Фота www.chepetsk.ru

# Нацыя і беларуская дзяржава

**Папярэдні артыкул («Беларусы — нацыя, ці як?» у №25 ад 5 ліпеня) нечакана выклікаў даволі інтэнсіўны абмен думкамі і крытыку. Стала зразумела, што праблемы нацыянальна-дзяржаўнага развіцця Беларусі для людзей вельмі важныя. Таму працягнем тэму.**



Таццяна ПРОЦЬКА

## Крыху тэорыі

Калі вызначэнне «нацыі» ў сучасных умовах не мае адназначнай формы, то з азначэннем «дзяржава» справы яшчэ горш. З аднаго боку, слова гэтае ўжываецца штодня, з іншага, значэнне яго — што ёсць сучасная дзяржава, якія яе функцыі, задачы і ў Беларусі, і ў свеце — трактуюць па-рознаму.

Найбольш распаўсюджаным з'яўляецца ўяўленне пра дзяржаву, што носіць назву «ліберальна-дэмакратычная мадэль». Яе заснавальнікам лічыцца Джон Лок. Дзяржава ўяўляе сабой сукупнасць людзей, злучаных у адно цэлае пад эгідай імі ж устаноўленага агульнага закона. Гэта дзяржава ўвасабляе палітычную ўладу, то-бок, права ў імя грамадскага дабра стварäць законы, а таксама права ўжываць сілу супольнасці для выканання гэтых законаў і абароны дзяржавы ад нападу звонку.

Дзяржава ёсць сацыяльны інстытут, які ўвасабляе і адпраўляе функцыю публічнай (у Лока — палітычнай) улады. Лок у «натуральных» уласцівасцях індывіда бачыць першапачатковае права і крыніцу «заканадаўчай і выканаўчай улады, а роўна і саміх урадаў і таварыстваў». У Лока няма і гаворкі пра адмову індывідаў ад сваіх натуральных правоў і свабодаў на карысць дзяржавы. Права на жыццё і валоданне маёмасцю, свабоду і роўнасць чалавек не перадае нікому і ні пры якіх абставінах. Дзяржава атрымлівае ад людзей роўна столькі ўлады, колькі неабходна і дастаткова для дасягнення галоўнай мэты палітычнай супольнасці. Заключаецца ж яна ў тым, каб усе (і кожны) маглі забяспечваць, захоўваць і рэалізоўваць свае грамадзянскія інтарэсы: жыццё, здароўе, свабоду і ўласнасць.

Кіраўніцтва сучаснай беларускай дзяржавы, аднак, крытычна ставіцца да гэтай мадэлі.

Нямецкі сацыёлаг Макс Вебер прадставіў іншую трактоўку паняцця «дзяржава» —«гэта адзіная арганізацыя, якая валодае правам на легітымны гвалт і мае патрэбу ў падтрымцы з боку кіраваных мас». У тэорыі дзяржавы сацыёлаг разглядаў нацыянальную ідэнтычнасць у ролі апоры для кожнай дзяржавы ў сучаснасці. «Тое, чаго можа дасягнуць дзяржава толькі аднымі сродкамі сілы без добраахвотнай падтрымкі насельніцтва, вельмі абмежаванае, асабліва ў час вайны», — піша ён.

Неабходна заўважыць, што Вебер аб'ядноўвае дзяржаву і нацыю, мяркуючы, што гэтыя паняцці практычна раўназначныя. На думку сацыёлага, іх залежнасць прасочваецца ў тым, што жыццё дзяржавы магчымае выключна пры падтрымцы нацыянальнай супольнасці і ўладаў. Менавіта дзяржава спрабуе захаваць нацыянальную прыналежнасць пэўнага народа, то-бок, за кошт дзяржавы трымаецца і існуе нацыя. Вебер лічыць уладу і культуру прынцыпова рознымі сферамі.

Апошнім часам на палітычных мерапрыемствах былі заўважныя анархісты — з'ява для Беларусі не вельмі тыповая. Але калі ўлічыць, што доўгі час у Мінску і іншых гарадах Беларусі існавалі вуліцы і завулкі імя вядомых рускіх анархістаў Бакуніна і Крапоткіна, то і не такая ўжо і незразумелая.

Дзяржава, паводле Бакуніна, у сілу сваёй гвалтоўнай сутнасці павінна разглядацца як чужы прыродзе чалавека, але непазбежны на нейкім гістарычным этапе інстытут. «Дзяржава ёсць гістарычна неабходнае зло», «пераходная форма грамадства». Сучасная дзяржава разглядалася Бакуніным як пачатак, што дэфармуе сацыяльнае асяроддзе, адчужае яго ад чалавека, і гэта парушае правы чалавека. Замест натуральных правоў і неабходнага агульначалавечага права з'яўляецца дзяржаўнае заканадаўства, якое ім супярэчыць і мае свае, адрозныя мэты. Ніякае заканадаўства, меркаваў ён, ніколі не мела «іншай мэты, акрамя мэты ўмацаваць эксплуатацыю працоўнага народа пануючымі класамі і ўбудаваць яго ў сістэму». Замест улады грамадскай думкі і аўтарытэту навуковых ведаў фармуецца прымусовы аўтарытэт дзяржаўных служачых, органаў дзяржаўнай улады.

Крапоткін меркаваў, што «дзяржава ўмешваецца ва ўсе нашы справы і трымае нас у сваіх абдымках ад калыскі да труны. Яна вызначае ўсе нашы ўчынкі, нарыхтоўвае горы законаў і распараджэнняў, у якіх не ў сілах разабрацца самы спрытны адвакат. Яна стварае цэлую армію чыноўнікаў... Вялізныя сумы, якія пастаянна павялічваюцца, спаганяюцца дзяржавай з народа, але ніколі не бываюць дастатковыя; дзяржава жыве за кошт будучых пакаленняў і ўсё больш і больш набліжаецца да банкруцтва». Пры гэтым форма праўлення ў дзяржаве, паводле Крапоткіна, не мае ніякага значэння.

Ленін, працу якога «Дзяржава і рэвалюцыя» вывучалі і канспекталі людзі старэйшага пакалення ў ВНУ, таксама прытрымліваўся поглядаў анархістаў: «Усялякая дзяржава ёсць "асаблівая сіла для падаўлення" прыгнечанага класа. Таму ўсялякая дзяржава несвабодная і ненародная». «У грамадстве без класавых супярэчнасцяў дзяржава непатрэбная і немагчымая».

Элементы анархісцкіх вучэнняў мелі заўважнае месца ў палітычнай практыцы беларускай апазіцыі ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Публічнае адмаўленне прынятага ў дзяржаве варыянта Канстытуцыі, розныя формы байкотаў — з анархісцкага рэпертуару.

Але найбольш вядомым і ўжываемым сёння з'яўляецца сталінскае ўяўленне пра дзяржаву — як сукупнасці дзяржаўнага апарату і грамадскіх «прывадных рамянёў». Першым па значэнні сярод гэтых рамянёў была партыя. За ёй былі замацаваныя непасрэдныя палітычныя і эканамічныя абавязкі, у тым ліку па арганізацыі вытворчасці — партыйныя арганізацыі былі надзеленыя правам кантраляваць адміністрацыю прадпрыемстваў, правяраць выкананне прадпрыемствамі рашэнняў наркаматаў. У раённых і абласных камітэтах партыі была ўведзеная пасада сакратара па прамысловасці. Пад канец існавання БССР партыйныя структуры ў сваёй сутнасці ўжо не адрозніваліся ад дзяржапарату.

Пад кіраўніцтвам партыі дзейнічалі ў якасці «прывадных рамянёў» іншыя масавыя арганізацыі. Па сваім значэнні вылучаліся тры: прафсаюзы, камсамол і Саветы. Сёння замест партыі і яе структур існуе Адміністрацыя прэзідэнта, астатнія «рамяні» нават не змянілі назву.

У Канстытуцыі наша краіна пазначаная як «Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава». Яна не ўтрымлівае ніякіх прывілеяў для прадстаўнікоў беларускай нацыі. У ёй, як і ў Канстытуцыі Расіі, адсутнічае паняцце тытульнай нацыі, якое напрыканцы XIX стагоддзя было сфармуляванае французскім пісьменнікам і нацыяналістам Морысам Барэсам. Барэс меркаваў, што нацыянальная дзяржава можа быць моцнай толькі пры наяўнасці дзвюх умоваў: нацыянальныя меншасці і этнічныя дыяспары павінны захоўваць лаяльнасць дзяржаве тытульнай нацыі, а тытульная нацыя павінна падтрымліваць «свае» нацыянальныя меншасці за мяжой. Паводле Барэса, тытульная нацыя — гэта дамінуючая этнічная група, на аснове мовы і культуры якой будуецца дзяржаўная сістэма адукацыі. Калі прытрымлівацца гэтага вызначэння, тытульнай нацыяй у Беларусі з'яўляюцца рускія.

Беларускія людзі маюць свой погляд на дзяржаву. Ён складаецца з дзвюх знешне супярэчлівых рэчаў — так званай «патэрналісцкай дзяржавы» і дзяржавы ворага, зла, якое трэба цярпець. Патэрналісцкай дзяржавай называюць сітуацыю, калі насельніцтва мяркуе (і адпаведна паводзіць сябе), што дзяржава — нешта, што ўзвышаецца над ім, незалежнае ад яго, пасланае звыш, і таму яна мае права дыктаваць людзям іх думкі, дзеянні і ўчынкі, караць і заахвочваць. Дзяржава — усё, а чалавек, асоба — нішто. Або, паводле Сталіна, — «вінцік». У сваю чаргу, дзяржава, лічаць людзі, павінна пра іх па-бацькоўску клапаціцца.

Уяўленне пра дзяржаву як пра ворага характэрнае для пэўнай часткі апазіцыйнай і дысідэнцкай інтэлігенцыі і моладзі. Яно выяўляецца ў ахайванні дасягненняў дзяржавы, публічных асуджэннях людзей, што пайшлі на «супрацоўніцтва з уладамі» і занялі дзяржаўныя пасады. Моладзь, якая бачыць у дзяржаве ворага, імкнецца знайсці магчымасці, каб з'ехаць у іншыя краіны. Уяўленне пра дзяржаву як ворага нацыі — важны матыватар беларускай эміграцыі.



**У Беларусі пачынае фарміравацца новая «глыбінная дзяржава» — арыентаваная на беларускае нацыянальнае развіццё. Гэтаму спрыяе развіццё нацыянальнай прамысловасці, бізнесу, пашырэнне інстытута прыватнай уласнасці. І хаця першыя крокі гэтай «дзяржавы» яшчэ вельмі няўпэўненыя, яны ўжо ёсць**

Вобраз «дзяржавы-ворага» цяпер распаўсюдзіўся і на больш шырокія колы насельніцтва. Асабліва адчувальны ён у тых дзяржаўных службах, што маюць дачыненне да задавальнення непасрэдных патрэбаў насельніцтва і экалогіі. Людзі пачынаюць актыўна абараняць свае правы: барацьба жыхароў Брэста супраць будаўніцтва акумулятарнага завода — не першы, але і не апошні прыклад гэтай актыўнасці.

Кіраўніцтва Беларусі апошнім часам стала схіляцца да публічнай канстатацыі існавання прыкметаў беларускай нацыі (у савецкія часы і пачатку XXI стагоддзя на падставе барацьбы з нацыяналізмам прыкметы беларускай нацыі ў дзяржаўных установах і СМІ не акцэнтаваліся). Гэты працэс нават назвалі «мяккай беларусізацыяй». Ён заўважны ў праграмах БТ, радыё, і асабліва ў раённых цэнтрах. Але сучасная беларусізацыя мала адрозніваецца ад той, што адбывалася ў 1920-я гады. Як і тады, яна ў большасці беларуская па форме і савецкая па змесце.

## Дзяржава як нацыянальная ідэя

У розных колах грамадства часам можна пачуць, што галоўнай нацыянальнай ідэяй для беларусаў павінна стаць стварэнне і захаванне суверэннай беларускай дзяржавы. Гэта стала асабліва актуальна ў сувязі з інтэнсіфікацыяй інтэграцыйных працэсаў Расіі і Беларусі і падзей ва Украіне. Але, калі ў грамадстве існуе поўная згода наконт суверэнітэту Беларусі, то формы суверэннасці выклікаюць бурлівыя спрэчкі. Можна вылучыць тры галоўныя мадэлі «суверэннасці» — нацыянальную, савецкую і ліберальна-дэмакратычную.

Паслядоўным прыхільнікам нацыянальнай мадэлі з'яўляецца Зянон Пазьняк — колішні лідар самага моцнага грамадскага руху пачатку 1990-х гадоў у Беларусі, Беларускага Народнага Фронту. Ён зазначае: «Праз пяцьдзясят гадоў пасля Каліноўскага народ ужо стварыў беларускую нацыянальную літаратуру, беларускі нацыянальны тэатр, беларускія палітычныя партыі, беларускі перыядычны друк і — што важна — моцную і прыцягальную нацыянальную ідэалогію «Адраджэнне». Сутнасць яе заключаецца ў адраджэнні велічы і культуры Вялікага Княства Літоўскага ў нацыянальнай дзяржаве — Беларусі». «Беларуская нацыянальная ідэя "Беларусь" — гэта ідэя, што паўстала супраць маскоўскага забору, і адначасна вызваляла народ ВКЛ з пасткі Рэчы Паспалітай, у якую ён трапіў у 1569 годзе».

Але пакуль гэтая ідэя не рэалізуецца, ці рэалізуецца вельмі слаба. Павел Церашковіч заўважае: «У апошнія два дзесяцігоддзі ўмацаванне беларускай ідэнтычнасці адбывалася галоўным чынам як формы звязанасці з пэўнай дзяржаўнай прасторай. Разам з тым, уласна этналінгвістычны кампанент, характэрны для іншых нацыянальных супольнасцяў рэгіёну, у Беларусі па-ранейшаму існуе ў маргінальных для масавай свядомасці формах. Яна шмат у чым захоўвае традыцыі гібрыднасці і гнуткасці, характэрныя для культурнага памежжа, а не для нацыі-дзяржавы. На сёння Беларусь — адзіная краіна Усходняй Еўропы, дзе мова і культура, якія легітымізуюць яе стварэнне, знаходзяцца ў падначаленым, дыскрымінаваным стане. Гэтае парушэнне няпісаных правілаў рэгіёну з'яўляецца выклікам самога яе існавання як суверэннай дзяржавы».

Дамінуючай і сярод кіраўнікоў дзяржавы, і значнай часткі беларускага насельніцтва з'яўляецца савецкая мадэль суверэннасці. Яна грунтуецца на ідэі ўзнаўлення СССР (спачатку ў выглядзе СНД, зараз у выглядзе беларуска-расійскай «Саюзнай дзяржавы», АДКБ), савецкай версіі гісторыі, як беларускай, так і сусветнай, савецкай адукацыі і культуры. У савецкай мадэлі нацыянальнае разглядалася як варожае, на аснове рускай мовы і культуры стваралася новая еднасць — «савецкі народ» («чырвоны чалавек» паводле Святланы Алексіевіч). Сучасная беларуская дзяржаўнасць арыентуецца на гэтую еднасць як свой падмурак. Галоўным праваднікам гэтай мадэлі ў жыццё з'яўляецца Лукашэнка.

Трэці погляд на дзяржаву як нацыянальную ідэю, які часта называюць ліберальна-дэмакратычным, не зусім адпавядае класічнай мадэлі Лока. Найбольшую грамадскую цікавасць выклікалі выказванні на гэты конт бізнесоўца Юрыя Зісера і філосафаў Уладзіміра Мацкевіча ды Валянціна Акудовіча.



Зісер у адным з інтэрв'ю сцвярджае: «Будучыня краіны не можа палягаць у яе мінулым. Тое, што было сто гадоў таму, ці нават 50 гадоў таму, — змяняецца на вачах. Ідэя нацыянальнай дзяржавы памерла 50 гадоў таму, пачала паміраць яшчэ раней. Тым больш у нашых умовах. У нас поліэтнічная дзяржава, у нас шмат народаў і моваў. Таму нацыянальная ідэя можа ўспрымацца толькі ў грамадзянскім сэнсе, а не ў этнічным або моўным. Не можа нацыянальная ідэя заключацца ў вяртанні да нейкіх "вытокаў". Бо за сто гадоў усё змянілася».

Уладзімір Мацкевіч, у сваю чаргу, піша: «Нас аб'ядноўвае не кроў, не паходжанне, а грамадзянства і сяброўства ў нацыі. І лёс нацыі залежыць ад нашай разумнасці».

Валянцін Акудовіч лічыць: «Гартуе беларускую нацыю дзяржава. І толькі дзяржава». «Давайце ўявім: ну, не ўстане з каленяў беларуская мова. Дык што, не будзе беларускай нацыі? Канешне, будзе! Яе сфарміруе дзяржава. А вось калі дзяржавы не будзе, тады пытанне з нацыяй станецца вельмі сур'ёзным. Без дзяржавы беларуская нацыя будзе пастаўленая пад пытанне зноў, як яна была пастаўленая ў ранейшыя часы». «Пакуль наш лёс, лёс нашай незалежнасці, вельмі моцна, хай не абсалютна, але вельмі моцна звязаны з Лукашэнкам. На жаль ці на шчасце — гэта ўжо іншае. Але па факце — гэта так».

Такім чынам бачна, што нацыянальная ідэя ў выглядзе «дзяржава Беларусь» утрымлівае неўладкаваныя і процілеглыя погляды. Яна пакуль не аб'ядноўвае беларускую нацыю. Як сказаў Зісер: «Сур'ёзнага збліжэння я не бачу. Улада як палівала брудам усіх, хто з ёй не згодны, так і палівае. Мне спадабалася нататка ў "Нашай Ніве", якая дала загаловак: "Што напісалі дзяржаўныя СМІ пра Дзень Волі?" Адкрываю артыкул і бачу адно слова — "Нічога". Гэта бліскучая заўвага. Але гэта ўжо прагрэс — хаця б не лаялі. З іншага боку, зацятыя прыхільнікі поглядаў стогадовай даўніны ненавідзяць усіх, хто размаўляе на рускай мове, ненавідзяць Расію, ненавідзяць усіх, хто думае не так, як яны».

## «Глыбінная дзяржава»

Для постсавецкіх беларусаў вельмі важным з'яўляецца тое, што ў сучаснай паліталогіі называецца «глыбіннай дзяржавай».

Азначэнне «глыбінная дзяржава» было выказана ў 2014 годзе Майкам Лафгрэнам, як «гібрыднае зліццё дзяржаўных чыноўнікаў і прадстаўнікоў верхняга ўзроўню фінансістаў і прамыслоўцаў, што эфектыўна кіруюць ЗША, не пытаючыся пра гэта выбаршчыкаў, парушаючы сутнасць палітычнага працэсу». Другі амерыканец — Джэйсан Ройс Ліндсі — сцвярджае, што нават калі адкінуць тэорыі змоваў, то тэрмін «глыбінная дзяржава» — карысны тэрмін, які дапамагае зразумець шэраг аспектаў інстытута нацыянальнай бяспекі ў развітых краінах. Ліндсі піша, што «глыбінная дзяржава» атрымлівае моц з нацыянальнай бяспекі і разведкі і ператваецца ў царства, дзе сакрэтнасць з'яўляецца крыніцай улады. Азначэнне «глыбіннай дзяржавы» выкарыстоўваецца сучаснымі ўкраінскімі паліталагамі для тлумачэння працэсаў, што адбываюцца ў іх краіне.

Заўважу, што з уяўленнямі пра «глыбінную дзяржаву» савецкія людзі жылі ўвесь час. У тыя часы людзі звыкліся, што публічна кіраўнікамі краіны выказваліся думкі, якія былі прапагандай і не адпавядалі рэчаіснасці. Лічылася, што сапраўднай інфармацыяй валодаюць толькі спецслужбы, якія тую інфармацыю дазавана выдавалі. Да сёння большасць беларускіх людзей лічыць спецслужбы галоўнымі дзеючымі асобамі, што прадстаўляюць «глыбінную беларускую дзяржаву».

У савецкія часы спецслужбы змагаліся з праявамі «нацыяналізму», лічылі яго варожым, антысавецкім. З усіх краін былога СССР Беларусь найбольш пацярпела ад выкрыцця так званых «нацдэмаў». Да сёння захавалася тагачасная думка, што спецслужбы кампраметуюць і нават забіваюць нацыянальных дзеячаў, ініцыююць сваркі сярод іх, правакуюць.

Як беларускія спецслужбы сёння ставяцца да нацыянальнага развіцця? У афіцыйных СМІ такія звесткі практычна адсутнічаюць. Але беларусы ўмеюць чытаць паміж радкоў. Да 100-годдзя КДБ яго старшыня Валерый Вакульчык наступным чынам ахарактарызаваў дзейнасць свайго ведамства: «Галоўная задача — абарона незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці, забеспячэнне нацыянальнай бяспекі Беларусі. Па сутнасці, гэта абарона асобы, грамадства і дзяржавы. Гэта значыць, мы, калі разабрацца, працуем на грамадзян краіны. У тым ліку абараняем іх не толькі ад прамых злачынных замахаў, але і ад спробаў маніпуляцый імі, увядзення ў зман, выкарыстання "наўгад" для рэалізацыі чужых інтарэсаў. Выкрываць сапраўдныя намеры такіх маніпулятараў, "лялькаводаў" — таксама адна з задач Камітэта». Разам з тым, мне падаецца, у Беларусі пачынае фарміравацца новая «глыбінная дзяржава» — арыентаваная на беларускае нацыянальнае развіццё. Гэтаму спрыяе развіццё нацыянальнай прамысловасці, бізнесу, пашырэнне дзеяння інстытута прыватнай уласнасці. І хаця першыя крокі гэтай «дзяржавы» яшчэ вельмі няўпэўненыя, яны ўжо ёсць.

## Утварэнне «саюзнай дзяржавы» і беларуская нацыя

Напрыканцы 1990-х гадоў частка расійскіх палітычных элітаў вырашыла ўзяць курс на аднаўленне СССР. Новым лідарам гэтага працэсу быў вызначаны малады, амбітны кіраўнік Беларусі Лукашэнка. «Шэрым кардыналам» з расійскага боку выступаў Яўген Прымакоў, былы кіраўнік службы выведкі СССР. Тады ўзнікла першая мадэль аднаўлення: «Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі». У Беларусі дастаткова сур'ёзна паставіліся да ажыццяўлення гэтага праекту. У выніку пачатае напрыканцы XX стагоддзя адраджэнне беларускай нацыі было спыненае. Яго замяніў лозунг дасягнення народнага дабрабыту, сфармуляваны даволі проста: «чарка і шкварка». Народу штодня тлумачылі, што Беларусь не здольная да самастойнага эканамічнага развіцця, мае патрэбу ў падтрымцы з боку Расіі, і гэтая падтрымка штогод ідзе. Руская мова і культура — найпрыгажэйшыя і найбагацейшыя ў свеце па спосабу найбольш дасканалага адлюстравання асабліваццяў свету. Усё беларускае пачало лічыцца другасным, нецікавым, не адпавядаючым задачам тэхнагеннай цывілізацыі. Беларускую нацыю зрабілі насельніцтвам.

Мадэль аднаўлення СССР у выглядзе «Саюзнай дзяржавы» аказалася непаспяховай, не была падтрыманая іншымі былымі рэспублікамі. Тады пачалі выкарыстоўваць другую мадэль аб'яднання, што атрымала назву «русского мира». Яна знайшла сваіх прыхільнікаў і ў Беларусі. Якаў Трашчанок у падручніку па гісторыі зазначыў: «Праваслаўная царква — маці беларускай нацыі. Калі б яна была знішчаная, то на гэтай зямлі не было б беларусаў. Гэта павінен ведаць і памятаць кожны беларус, незалежна ад яго індывідуальных адносін да рэлігіі і сучаснай царквы. Гэта адна з абсалютных ісцін беларускай гісторыі».

Мадэль «русского мира» была выпрабаваная ва Украіне — і таксама без поспеху. Але падзеі ва Украіне станоўча адбіліся ў Беларусі, звярнулі ўвагу часткі кіруючых эліт на неабходнасць развіцця беларускай нацыі як падмурка дзяржаўнасці. Гэтаму спрыяла і тое, што адбылася ўзроставая змена часткі эліт. Новыя маладыя кіраўнікі ўжо ведаюць не толькі творы Маркса–Леніна, але і хто такі Вебер.

У 2015 годзе памёр галоўны ідэолаг аднаўлення СССР Прымакоў, змянілася эканамічнае становішча расіян і Расіі. Паступова змянілася і сутнасць «Саюзнай дзяржавы» — пра ўзнаўленне СССР ужо няма гаворкі. Новую сутнасць расійска-беларускіх адносін трапна сфармуляваў філосаф Валянцін Акудовіч: «Ці хоча Расія далучыць Беларусь? У гэтым не можа быць ані каліўца сумневу. Але гэтаксама Расія хоча зноў далучыць да сябе Украіну, Грузію, былыя савецкія краіны Азіі, Малдову, Прыбалтыку і нават усе еўрапейскія краіны былога сацыялістычнага лагеру. Рэч у тым, што ментальнасць расійскага чалавека стагоддзямі фармавалася праз захоп чужых земляў. І хаця пасля распаду СССР гэтых чужых земляў у Расіі добра паменела, але тая ментальнасць захопніка засталася. І яна шкодзіць, моцна шкодзіць рускаму чалавеку. І не дае яму супакоіцца».

Сёння беларуская нацыя як ніколі патрэбная беларускай дзяржаве. Але каб саюз нацыі і дзяржавы быў прадукцыйны, павінны прайсці кардынальныя змены як у самой нацыі, так і ў дзяржаве. Першае, што неабходна: павінна знікнуць савецкае — у назвах, помніках, звычаях, святах, адукацыі, мастацтве, песнях, праграмах тэлебачання, кіно. І тут беларускай нацыі вельмі патрэбная беларуская дзяржава. Беларускія нацыя і дзяржава павінны навучыцца бараніць адно аднаго.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Усе жанчыны — злачынцы?

Мэр Ташкента вырашыў прадухіляць злачыннасць сярод жанчын – і загадаў падначаленым высветліць, якія кабеты найбольш схільныя да злачынстваў. У выніку працы з мясцовымі ўладамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў і грамадскасцю была вызначаная тая самая група рызыкі, якая складаецца з 32 катэгорый. Да тэарэтычных злачынцаў улада адносіць не толькі раней асуджаных жанчын, або, скажам, хворых на алкагалізм. Патэнцыйна, паводле спісу, перайсці мяжу закона могуць беспрацоўныя, тыя, хто не мае сталічнай прапіскі, інваліды, маці-адзіночкі і нават разведзеныя. Але самая адметная катэгорыя без пяці хвілін злачынцаў — «непаўналетнія (да 18 гадоў) і маладыя дзяўчаты (ад 18 да 30 гадоў)». Такі падыход выклікаў заканамерныя заклікі разагнаць камітэт пры мэрыі, які прыдумаў групы рызыкі. Між тым некаторыя, наадварот, жартаўліва дзякуюць чыноўнікам. Маўляў, «дзякуй» за тое, што яны гэтыя катэгорыі яшчэ не манетызавалі, як звычайна робіць з праблемай. Маглі распрацаваць для кожнай катэгорыі нашыўкі для адзення і ўвесці іх абавязковае нашэнне за адпаведную таксу. А калі жанчына падыходзіць па некалькіх пунктах — хай набудзе некалькі нашывак. І з крыміналам барацьба, і бюджэту дапамога.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### САЛЬВАДОР. Сапраўднае свята!

Улады Сальвадора вырашылі на нацыянальным узроўні адзначыць дзень, калі не быў забіты ніводны чалавек. Здараецца такое ў гэтай краіне Лацінскай Амерыкі дастаткова рэдка. Апошні раз такі дзіўны па мясцовых мерках выпадак быў зафіксаваны два гады таму. Ва ўсе іншыя дні без забойстваў не абыходзілася. Прычым, забіваюць тут вельмі шмат. Так, у ліпені 2019 года МУС паведамляла пра 154 смяротныя выпадкі. З іншага боку, гэта статыстыка значна лепшая за ліпень 2018-га, калі быў забіты 291 чалавек. Так ці інакш, улады Сальвадора лічаць такія лічбы знакам паспяховай рэалізацыі праграмы «Бяспечны Сальвадор», з якой цяперашні прэзідэнт Наіб Букеле ішоў на выбары. Калі ўсё атрымаецца, то, як кажа прэзідэнт, ужо праз чатыры гады ў краіне не застанецца крымінальных груповак. Менавіта 60 тысяч іх чальцоў нясуць галоўную адказнасць за разгул крыміналу.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### АФГАНІСТАН. Мёртвыя душы

Такое ўражанне, што славуты твор Мікалая Гогаля пра прыгоды махляра Чычыкава і цяпер уважліва чытаецца афганцамі. А дакладней, афганскімі генераламі, якія паўтарылі апісаны ў кнізе Гогаля метад. Як высвятляецца, яны запісалі ў свае войска 42 тысячы рэкрутаў, якія на самай справе існавалі выключна на паперы. Пры гэтым на кожнага неіснуючага жаўнера Вашынгтон, які падтрымлівае рэжым у Кабуле, доўгі час даваў грошы, што перацякалі ў кішэні генералаў. Прычым вайскоўцам удалося адбудаваць такую ювелірную схему карупцыі, што шматлікія інспекцыі доўгі час не змаглі выявіць фізічную адсутнасць у казармах тых самых 42 тысяч чалавек. Прэса, на жаль, не інфармуе, дзе гэтая схема дала пракол. Паведамляюць выключна пра тое, што амерыканцы змянілі форму справаздачы пра навабранцаў: замест простых заяваў патрабуюць асабістыя біяметрычныя дадзеныя кожнага салдата.

**Паводле польскай прэсы**

### УКРАІНА. Вялікі брат галасуе за цябе!

Украінская грамадскасць узрушаная сенсацыйнай заявай Давіда Арахамія — аднаго з лідараў партыі «Слуга народа», якая па выніках выбараў 21 ліпеня атрымала большасць у парламенце. Паколькі выбарчы спіс фармаваўся вельмі хутка, у фракцыю трапіла шмат незразумелай публікі, якую трэба неяк цэментаваць. Па словах Арахаміі, у гэтым Зяленскаму дапаможа «штучны інтэлект». Гутарка пра камп'ютарную праграму, якую кіраўніцтва партыі мае намер выкарыстоўваць для выяўлення анамалій у галасаванні дэпутатаў. Ідэя з праграмай, якую, дарэчы, у Зяленскага называюць «Вялікі брат», прымусіла ўсіх задумацца пра лёс Украіны пад кіраўніцтвам каманды «Зе». Па-першае, гэта шакавальная непісьменнасць. «Вялікі брат» — азначэнне з антыўтопіі Джорджа Оруэла, якое мае выключна негатыўны падтэкст — татальны кантроль над грамадствам. Да таго ж кіберкантроль над дэпутатамі — замах на інстытут парламентарызму, паколькі «штучны інтэлект» — гэта нівеляванне самой ідэі дэпутата як прадстаўніка сваіх выбаршчыкаў у заканадаўчым органе. Любое абмежаванне ўлады дэпутата кімсьці, чымсьці, але не яго выбаршчыкам — крок да дыктатуры. Нарэшце, шмат хто прагназуе моцныя хакерскія атакі на «Вялікага брата», што можа заблакаваць працу ўкраінскага парламента. Такім чынам, наступная кадэнцыя Вярхоўнай Рады будзе вельмі незвычайнай. Яе першае пасяджэнне запланаванае на канец жніўня.

**Паводле ўкраінскай прэсы**




Фота www.life.ru

# Ірландская спайка

*Алег НОВІКАЎ*

**Апошнім часам аднавіліся і імкліва набіраюць ход дыскусіі пра магчымасць хуткага ўз'яднання Ірландыі.**

У 2-м артыкуле дзеючай Канстытуцыі Ірландыі прапісана наступнае: «Прыналежная (ірландскаму) народу тэрыторыя складаецца з усяго вострава Ірландыя, прылеглых да яго астравоў і тэрытарыяльнага мора». Наступны пункт Асноўнага закону ўвогуле сцвярджае, што ўсе законы, якія прымае ірландскі парламент, дзейнічаюць таксама на ўсім востраве.

Відавочна, што дакумент цалкам супярэчыць рэчаіснасці. Поўнач вострава знаходзіцца пад кантролем Лондана з 1921 года, калі ірландцам была навязаная мірная дамова. Паводле яе Ірландыя станавілася Свабоднай дзяржавай пад пратэктаратам Брытанскай Кароны, а Поўнач засталася часткай каралеўства, паколькі гэта было месца кампактнага пражывання англічанаў-пратэстантаў. Хутка ў Дубліне змянілася ўлада — і новы ўрад заявіў, што не прызнае змесціву дамовы. Праўда, дамагчыся перагляду статусу шасці паўночных графстваў не атрымалася.

Пасля гэтага барацьба за аб'яданне Ірландыі набыла папяровы фармат. Дублін перыядычна прымаў законы, якія падкрэслівалі яго намер вярнуць Поўнач, дапускаў стварэнне агульнаірландскага ўрада і ішоў на дэмаршы кшталту выхаду са складу Брытанскай садружнасці (у 1948 годзе). У адказ на гэта ў Лондане прымалі свае акты, якія забаранялі перагляд статусу Паўночнай Ірландыі без згоды мясцовых жыхароў.

У перспектыву аб'яднання верылі хіба сябры партыі Шын Фейн, чыя паramілітарная фракцыя — Ірландская Рэспубліканская Армія (IRA) — прыкладна з 1925 года вяла ледзь не адкрытую вайну з брытанскімі сілавікамі. Аднак і яе кіраўніцтва пагадзілася падпісаць так званую «Дамову вялікай пятніцы» 1998 года, якая забараняе інтэграцыю Поўначы ў Ірландыю насуперак волі жыхароў краю. З улікам таго, што большасць насельніцтва складаюць пратэстанты, аб'яднанне стала выглядаць утопіяй.

І раптам 26 ліпеня Леа Варадкар, прэм'ер-міністр Ірландыі, дазволіў сабе пасаж, што выхад Вялікабрытаніі з Еўрапейскага саюза без пагаднення можа стаць штуршком да аб'яднання Ірландыі. Ён таксама выказаў меркаванне, што жорсткі Brexit можа паставіць пад сумнеў прыналежнасць Шатландыі да Злучанага Каралеўства. Раней з такіх радыкальных пазіцый выступаў хіба што той самы Шын Фейн, які яшчэ ў 2017 годзе анансаваў кампанію за рэферэндум пра аб'яднанне Ірландыі.

Новы слэнг ірландскіх палітыкаў, безумоўна, абумовіў працэс Brexit, які абвастрыў пытанне з рэжымам на мяжы паміж Ірландыяй і Ольстэрам. Перспектыва выхаду Паўночнай Ірландыі, як часткі Вялікабрытаніі, з ЕС можа прывесці да аднаўлення «жорсткай» палітычнай і эканамічнай мяжы паміж паўночнай і паўднёвай часткамі вострава. Аднолeная мяжа, на думку аналітыкаў, можа негатыўна адбіцца на сацыяльна-эканамічных стандартах жыхароў Поўначы, што прымушае мясцовы палітыкум (у тым ліку нават частку пратэстантаў) змагацца, каб захаваць прапіску ў еўрапейскім мытным саюзе. Пры гэтым толькі 32 працэнты жыхароў Ольстэра гатовыя на палітычную інтэграцыю з ЕС.

Непакояць людзей і заявы радыкалаў. У выпадку аднаўлення памежнага кантролю адна з фракцый IRA гатовая зноў пачаць баявыя акцыі. З іншага боку, пратэстанцкія парамілітарныя арганізацыі таксама заявілі пра гатоўнасць адкапаць сякеру вайны, калі Паўночная Ірландыя нейкім чынам застанецца ў ЕС пасля Brexit. На іх думку, толькі моцная мяжа з Ірландыяй гарантуе выратаванне пратэстантаў ад дыктату каталікоў.

Ёсць кампрамісны варыянт наконт мяжы, які дапускае, што Паўночная Ірландыя можа заставацца чальцом Мытнага саюза ЕС і адзінага еўрапейскага рынку, у той час як астатнія часткі Злучанага Каралеўства выйшлі б з гэтых структур. Аднак такі сцэнар не задавальняе Лондан, паколькі парушае цэласнасць унутранага рынку краіны. Пазней паступала прапанова, згодна з якой на мяжы з Ірландыяй з'явіцца спецыяльная буферная зона. Пры гэтым Паўночная Ірландыя будзе мець сумесны статус як у Вялікабрытаніі, так і ў ЕС. Але такі варыянт апынуўся непрымальны для брытанскай Палаты абшчын.

З іншага боку, ніякай зразумелай альтэрнатывы па праблеме мяжы Даўнінг-Стрыт, 10 таксама не прапануе. Пакуль што новы прэм'ер Джонсан спрабуе хіба толькі манеўраваць. Ён дамовіўся з ірландскім калегам, што ніводны бок не будзе спрабаваць аднавіць памежны кантроль у выніку выхаду Брытаніі з ЕС. Хутчэй за ўсё, гэта з'яўляецца тактычнай гульнёй, каб заспакоіць грамадства напярэдадні галасавання за праект Джонсана наконт Brexit.

Аднак па выніку пакуль усе віражы Джонсана выклікаюць пачуццё нейкага хаосу, які стымулюе навіны з Шатландыі. Паводле апублікаваных 5 ліпеня вынікаў апытанняў, колькасць аматараў незалежнасці стала пераважнай (цяпер 52 працэнты супраць 48). Гэта дазваляе чакаць хуткага абвяшчэння новага плебісцыту пра выхад краю са складу Аб'яднанага Каралеўства. Дарэчы, Джонсан ужо паспеў выказацца катэгарычна супраць такой ідэі.

З улікам таго, што 1 лістапада — фінальная дата, калі Брытанія па плане Джонсана павінна пакінуць ЕС, бліжэйшым часам сумбуру будзе ўсё больш. Таму выключаць нічога нельга. У тым ліку і старту праекта аб'яднання Ірландыі.

# Слава Украіне — лібертарыянцам слава!

Алег НОВІКАЎ

**Падаецца, што на змену пастулатам нацыяналізму ва Украіне ідуць ідэалагемы малавядомага ў нас вучэння — лібертарыянства.**

Першы тэму пра тое, што лібертарыянства будзе ідэалагічным компасам каманды Зяленскага, агучыў яшчэ ў красавіку яго намеснік Руслан Франкоў. «У аснове ідэалогіі нашай партыі ляжыць ідэалогія лібертарыянства. Мы з гэтага пачалі фармаваць нашы з ім [Зяленскім] адносіны — ліберальная мадэль эканомікі, ліберальная мадэль адносін, з адпаведнымі нацыянальнымі асаблівасцямі», — сказаў ён.

Споведзь Франкова выклікала ступар у шматлікіх мясцовых палітолагаў, якія мала што чулі пра такую канцэпцыю. Акрамя таго, лібертарыянства нават на Захадзе, дзе яно з'явілася, — экзатычны накірунак, да якога могуць належаць і сацыялісты, і анархісты, і лібералы, і аматары аўстрыйскай школы эканомікі. Адзінае, што ў большай або меншай ступені падзяляюць прадстаўнікі ўсіх пералічаных плыняў — ідэю неабходнасці скарачэння кантролю дзяржавы над асобай, паколькі кожны чалавек мае натуральнае права без удзелу дзяржавы свабодна распараджацца сваім лёсам ды ўласным целам, а таксама выробленымі ім або атрыманымі падчас добраахвотнага абмену прадметамі ўласнасці.

Хаця пытанне, як далёка трэба прыбраць дзяржаву з жыцця грамадзян, дасюль выклікае спрэчкі. Найбольш памяркоўныя гатовыя абмежавацца тым, што дзяржава адмовіцца ад субсідый гаспадарчым суб'ектам. Больш радыкальныя лічаць, што падаткі на чыноўнікаў — гэта анамалія, і ўсе паслугі дзяржавы могуць надаваць за адпаведную плату прыватныя сэрвісныя цэнтры. Самыя ваяўнічыя лібертарыянцы агітуюць за ідэю «добраахвотнага» (кантрактнага) рабства і адмену абавязковай сярэдняй адукацыі.

Цяжка сказаць, якім чынам канцэпты лібертарыянства прасачыліся ў галовы атачэння Зяленскага. Прынамсі, дасюль на прасторы экс-СССР тэрмін «лібертарыянства» выклікаў асацыяцыю хіба што з Яўгеніяй Дзебранскай — скандальнай маскоўскай актывісткай, якая пачынала ў Дэмакратычным Саюзе з Валерыяй Навадворскай, а закончыла пад дахам створанай ёю Лібертарыянскай партыі. Прычым, нацысты не рызыкавалі атакаваць акцыі Дзебранскай праз ёе былы шлюб з Аляксандрам Дугіным — аўтарам еўразійскай тэорыі, якую вельмі любіць расійскі афіцыёз.

**Няма сумневаў, што фракцыя «Слуга народа» прагаласуе за сыход украінскай дзяржавы са шматлікіх сфераў гаспадаркі. У хуткім часе плануецца прыватызацыя зямлі, дзяржбанкаў, дзяржманаполій і інш.**

Можна меркаваць, што лібертарыянства зацікавіла маладых украінцаў праз уласцівую яму крытыку дзяржавы як неэфектыўнага для грамадства інстытута-паразіта. Большасць дэпутатаў «Слугі народа», як, дарэчы, і сам Зяленскі, выйшлі з колаў малога і сярэдняга бізнесу, якому дзяржава ніяк і ніколі не дапамагала. Наадварот, кантакты з чыноўнікамі для гэтых людзей былі сінонімам бюракратычнай валакіты або дзяжурных хабараў.

Таму няма сумневаў, што большасць фракцыі «Слуга народа» прагаласуе за пакет пра сыход украінскай дзяржавы са шматлікіх сфераў гаспадаркі, які днямі агучыў намеснік старшыні Офіса прэзідэнта Аляксей Ганчарук. Паводле яго, у хуткім часе плануецца прыватызацыя зямлі, дзяржаўных банкаў, дзяржаўных манаполій, мясцовай чыгункі і ўкраінскай версіі нашай Белпошты.

З улікам таго, што на дварэ сезон адпачынкаў, а рэсурс даверу да Зяленскага дастаткова вялікі, тэма будучай прыватызацыі не выклікала інтарэсу сярод простых людзей. Затое на ўзроўні экспертаў хапае крытыкі. Паколькі ўкраінскі нацыянальны буйны капітал не можа цягацца паводле свайго ўплыву і рэсурсаў з міжнароднымі гульцамі, галоўнымі пакупнікамі большасці прывабных аб'ектаў гаспадаркі стануць замежныя кампаніі.

Найбольш балючым для ўкраінцаў, як постсялянскай нацыі, у такой перспектыве выглядае продаж замежнікам зямлі. У масавай свядомасці прыход на ўкраінскую зямлю іншаземца ўспрымаецца як нейкая ментальная траўма. Хаця, па сутнасці, замежныя аграфірмы і так даўно працуюць тут праз складаныя цяневыя схемы. Тым не менш, комплекс віны за «продаж Радзімы» будзе дакладна намагацца выкарыстаць апазіцыя. Прынамсі, Юлія Цімашэнка абяцае ледзь не акцыі грамадзянскай непакоры ў выпадку з'яўлення адпаведнага законапраекта ў Вярхоўнай Радзе.

З іншага боку, хутка той жа закон пра продаж зямлі правесці не атрымаецца. Для гэтага спатрэбіцца спачатку стварыць зямельны кадастр, пасля — крэдытныя праграмы для фермераў, якія жадаюць набыць зямлю і, адпаведна, стварэнне зямельнага банку. Колькі гэта запатрабуе часу, ніхто не ведае. Між тым, палітолагі лічаць, што лібертарыянства — гэта часовы кан'юнктурны крок, паколькі ў партыі «Слуга народа» большасць падтрымлівае нацыяналістаў і сацыял-дэмакратаў. Згаданыя фракцыі пачнуць вызначацца і самаідэнтыфікавацца падчас дэбатаў наконт прыватызацыі, і хутка створаць свае праекты, пахаваўшы цяперашні лібертарыянскі фінт.


Фота www.etcetera.media

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Нікол Пашынян

Прэм'ер-міністр Арменіі 6 жніўня на мітынгу ў Сцепанакерце агучыў стратэгічныя мэты, якія павінны быць дасягнутыя Арменіяй да 2050 года. Аптымізм прэм'ера выклікае захапленне.

Палітык лічыць, што праз 20 гадоў насельніцтва Арменіі павінна скласці мінімум 5 мільёнаў чалавек. Краіне да 2050-га года па сілах цалкам знішчыць такую ганебную з'яву, як беспрацоўе, у 7 разоў павялічыць сярэднюю зарплату, па індэксе эфектыўнасці арміі ўвайсці ў першую дваццатку і стварыць адну з 10 самых лепшых выведак на планеце.

Аднак самы высокія задачы былі пастаўленыя армянскім спартоўцам. Яны да 2050-га павінны зрабіць Арменію прызёрам Чэмпіянату Еўропы або Свету па футболе.

Але Пашынян у сваёй прамове нічога не сказаў пра геапалітыку. Між тым, адным з лозунгаў Майдана, які прывёў Пашыняна да ўлады ў мінулым годзе, быў пачатак інтэграцыі краіны ў Еўрасаюз.

Ігнараванне тэмы еўраінтэграцыі, а таксама нядаўнія расійска-армянскія сумесныя вайсковыя вучэнні многія разглядаюць як пракол большасці палітолагаў. Апошнія пасля падзей 2018-га дружна запісалі Пашыняна ў празаходнія палітыкі.

З іншага боку, магчыма, армянскі ўрад вымушаны замарозіць заходні вектар праз цяперашні хаос у ЕС, які не здольны прапанаваць постсавецкім краінам дарожную карту еўраінтэграцыі. Дарэчы, у сваім выступе Пашынян таксама нічога не сказаў і пра тое, якім бачыць у 2050 годзе статус Нагорнага Карабаху — прадмета канфлікту паміж Ерэванам і Баку.



### Грэта Тунберг

Шведская школьніца, самы ўплывовы тынейджар у свеце, роўна год таму выйшла на пікет да будынка парламента ў Стакгольме, пратэстуючы супраць змены клімату.

Акцыю не без удзелу прэсы падхапілі іншыя дзеці па ўсім свеце, арганізуючы па пятніцах у сваіх школах так званыя «забастоўкі за клімат». Паводле ацэнак спецыялістаў, рух, які выклікала дзяўчынка, ахоплівае больш за два мільёны чалавек. Не дзіўна, што яе нават ужо намінавалі на Нобеля.

Але гэтага Грэце Тунберг недастаткова. Яна вырашыла, што акцыі за клімат павінны перакінуцца на ЗША — аднаго з сусветных вытворцаў парніковых газаў. Для гэтага дзяўчынка накіроўваецца ў Злучаныя Штаты на вераснёўскую кліматычную канферэнцыю ААН, прычым не на самалёце, а на яхце. Робячы такі выбар, дзяўчынка заклікае аднагодкаў не карыстацца самалётамі і ўвогуле аднавіць пасажырскія перавозкі на караблях праз Атлантыку.

Марш Тунберг выклікаў супярэчлівыя ацэнкі ў Злучаных Штатах. Пішуць, што дзяўчынка, якая мае каласальны аўтарытэт, дэманструе няздольнасць шукаць кампрамісы. Іншыя кажуць, што ўдзел школьніцы ў навуковай канферэнцыі з'яўляецца маніпуляцый грамадскай свядомасцю і спрашчэннем кліматычнай праблемы.

Усё гэта выглядае трошкі смешна, калі не чытаць каментары да згаданых артыкулаў. Аўтары каментараў — гледзячы па ўсім, тынэйджары, — гатовыя крытыкаў Тунберг ледзь не пазабіваць. Магчыма, свет толькі зараз пачынае разумець, якая не падкантрольная нікому сіла хаваецца за гэтай мілай дзяўчынкай.

### Роберт Бедрань



Кіраўнік польскай левалібэральнай партыі «Вясна» — вядомы тым, што ў свой час быў першым у краіне адкрытым геем, які ўзначаліў муніцыпалітэт, — становіцца ўсё больш заўважнай фігурай на мясцовай палітычнай сцэне.

Улетку яго партыя, якая, дарэчы, была створана толькі ў лютым, паспяхова выступіла на выбарах у Еўрапарламент — атрымала шэсць працэнтаў. Днямі структура Бедраня стала сузаснавальніцай кааліцыі з удзелам Саюза дэмакратычнай левай (гістарычнага нашчадку камуністычнай Аб'яднанай Рабочай Партыі) і партыі «Разам» (польскага аналагу іспанскай «Podemos»). І, як паказваюць першыя замеры грамадскай думкі, на кастрычніцкіх выбарах у кааліцыі ёсць усе шанцы правравацца ў Сейм. На сёння за кааліцыю левых гатовы прагаласаваць прыкладна 10–15 працэнтаў электарату.

Такім чынам, польскія левыя могуць вярнуцца ў парламент пасля пяці гадоў адсутнасці, што разглядаецца мясцовымі каментатарамі як гістарычная падзея. Больш за тое, поспех кааліцыі можа стаць трамплінам для прэзідэнцкай кампаніі Бедраня ў 2020 годзе. Насуперак таму, што Польшча — каталіцкая краіна, балаціроўка гей-кандыдата выглядае не такой ужо і правальнай. Імідж польскага Макрона, харызма, праблема змены генерацый у кіраўніцтве іншых партый, могуць дапамагчы лідару «Вясны» як мінімум гучна заявіць пра сябе.

# Дзеці-чэкісты, геі з Дэфензівы і любошчы на друкарскім станку

Андрэй РАСІНСКІ

**Не былі спрыяльнымі для беларускай літаратуры 1930-я гады. Але сярод кніг, што выкрываюць ворагаў і славяць савецкі лад, сустракаюцца творы настолькі дзіўныя, што іх варта прыгадаць. Запрашаем у свет дзяцей-чэкістаў, геяў з Дэфензівы і спакушальніц на друкарскім станку.**

Першы герой гісторыі — «Косьця-чэкіст» з аднайменнай паэмы Міхася Калачынскага. Гэтая дзіцячая кніжка была выдадзеная ў 1938 годзе немалым накладам — у 10 тысяч асобнікаў.

Сын вартавога на маленькай беларускай станцыі Пагосціж марыць стаць чэкістам і паўсюль высочвае шпіёнаў. Піянер прымае за шпіёна лесніка, уважае за ворага пчаляра, і нарэшце выкрывае сапраўднага дыверсанта.

Давайце спачатку прыслухаемся да прамовы на піянерскім зборы, складзенай ва ўзорна-дыдактычным стылі:

*«Важаты гутарку вядзе,*
*Гаворыць простую прамову,*
*І слухае атрад дзяцей,*
*Пра справы і жыццё Ежова.*

*Ў вачах дзіцячых паўстае*
*Вялікага чэкіста вобраз;*
*Ён тут у сэрцах іх жыве,*
*Ласкавы, радасны і добры.*

*Ён любіць песенькі дзяцей,*
*Гулянкі, шчырыя забавы*
*І ненавідзіць тых людзей,*
*Што чыняць брудныя нам справы.*

*Шануе ўвесь народ яго,*
*Старыя, юнакі і дзеці.*
*Палае радасна агонь,*
*Зялёны бор развесіў вецце.*

*Кастусь стаіць на нізкім пні,*
*Ў задуме твар яго ружовы;*
*Ён думае аб светлым дні,*
*Калі спаткаецца з Ежовым.*

Звярніце ўвагу: прозвішча галоўнага чэкіста напісанае як Ежоў, а не Яжоў — гэта ўплыў русіфікацыі, якая ўжо набірала абароты. З Яжовым герой тады не сустрэўся, затое сустрэўся з чорнай гадзюкай, якую ён раздавіў, што выклікала захапленне ў публікі.

Хлопчык усцяж не перастае думаць пра ворагаў:

*У думках, крочачы дарогай,*
*Ён уяўляў гадзюк аблічча.*
*Шпіён такі: сярдзіты, строгі,*
*Кругом наганы, морда лычам.*

*І думаў Косця: можа іншы,*
*Апрануты ў такую маску,*
*Якой і словам не апішаш*
*У самых страшных нават казках.*

*Савецкае жыццё паўтарае натуру:*
*Навошта стварала прырода*
*Драпежнікаў хітрых і злых?*
*Карысці ніякай, а — шкода,*
*Адна толькі шкода ад іх.*

Думкі юнага чэкіста-натураліста пацвярджае стары пчаляр, які «расказаў […] казку малым рэбятам» пра трутня-дармаеда, які, выкінуты з вулею, вяртаецца, начапіўшы на сябе маску.

Менавіта такую маску — толькі дачніка — начапіў на сябе сусед пільнага піянера. Каб адразу нам было зразумела, што гэта вораг, дачнік гэты з'яўляецца ў атачэнні мух, і нават вядомую песню пра чыжыка-пыжыка ён спявае перайначыўшы:

*Чыжык, чыжык, дзе ты быў?*
*Па чужых краях хадзіў.*

Гэты вораг — «зладзюга, агідлівы смоўж» — і сам не хавае свайго падабенства да брыдкай слізкай істоты:

*Глянь, хлопчык, як смоўж выглядае*
*Агідна пабольшаны шклом.*
*Кастусь разважаў: «Ты-ж такая*
*Казяўка з сваім ліхтаром».*

Хлопчык вырывае ў дыверсанта, які намагаецца пусціць пад адхон цягнік, ліхтарык, дый абгарнуўшы ў чырвоны гальштук, сігналіць. Вораг пакараны.

*На гэтым, дзеці, я канчаю*
*Аповесць першую сваю.*
*Чэкіста Косцю я вітаю,*
*Яму ад вас вітанне шлю.*

*Ён стаў чэкістам не на словах,*
*Шпіёна смела затрымаў.*
*І быў у Сталіна, Ежова,*
*Ім рукі моцна паціскаў.*

*Яны імкненне нарадзілі*
*У хлопчыка чэкістам стаць,*
*Яны змагацца навучылі,*
*Шпіёнаў хітрых пазнаваць.*

Калі вораг у паэме Калачынскага — гэта казюлька, смоўж, гідкі драпежнік, якога заўважае нават дзіця, то вораг у «Біяграфіі майго героя» Сяргея Знаёмага — замаскаваны агент Дэфензівы, які да апошняга выклікае занадта цёплыя пачуцці ў недасведчанага камсамольца.

Аповесць Сяргея Знаёмага, выдадзеная ў 1935 годзе, расказвае пра колішняга дробнага злодзея Казіма, які пад дабратворным уплывам камуністак і камсамолак становіцца на «сапраўдны шлях» працоўнага подзвігу і ўсведамляе, што яго лепшы сябар — не той, за каго сябе выдае.

Хаця герой вытворчай меладрамы сустракаецца з камсамолкай (гаваркой, з «культкомам заўкома»), робіць ён гэта без усялякай цеплыні і душэўнасці, аддаючы перавагу свайму калегу — таварышу Кізілу (нават прозвішчы персанажаў падобныя!).

У блізкай прысутнасці таварыша нават мова твора — звыкла-траскучая — становіцца нейкай шчымлівай і інтымнаю:

***«Ён глядзеў на тоўсты сасновы сук, які густымі лапкамі засланяў ускрай хмары. Крыху далей, дабротна разваліўшыся, ляжаў і дыхаў шырокімі сваімі грудзямі Кізіла. Ён глядзеў на прасторы жыта, якое танула ў красе, на просінь жытніх васількоў, і здавалася яму, чуў, як гудзе, пераліваецца шматструнны, стракаты і пахучы зялёны луг […] Кізіла ад нечаканасці здрыгануўся. Казім зірнуў на яго, потым зноў перавёў погляд на калматы сасновы сук [доктар Фрэйд, маўчаць!] А луг, і поле, лес і далеч безупынна гулі сваім радасным гудам. І сонца залівала зямлю цеплынёй і светам. Казім зірнуў на дружбака, — той спаў на поўныя грудзі…***

***Вечарэла, і хлопцы ішлі дамоў. Сонца садзілася над лесам, і з чыгункі даносіліся паразвонныя гудкі. Было так цёпла і хораша.***

***— Ты, Федзя, кахаў калі-небудзь? — запытаўся Казім».***



Федзя не толькі кахаў, але і марыў, што «цалаваць яго будуць у самыя вусны», толькі да дзяўчат ён ставіўся чамусьці з вялікай пагардай — і ўсяляк адахвочваў героя ад кантактаў з перадавой камсамолкай.

Негаваркі, працавіты і ўтойлівы Кізіла быў падступным варожым агентам: цішком шкодзіў на прадпрыемстве, а яго сябра Казім, усцешаны цёплай кампаніяй, раз за разам старанна прыпарошваў сабе вочы.

Але калі вораг зразумеў, што замежных (і ніякіх) пацалункаў не будзе, а яго сябар канчаткова сыдзе да камсамолкі, то імітаваў падучку з выццём і пенай, перапіліўшы заадно на фабрыцы барабан. Пільная камсамолка засведчыла: сябра героя — варожы агент.

Шпегаўска-любоўны трохкутнік з амаль непрыхаванай мужчынскай прыязнасцю — не адзіная скандальная дзівоса «Біяграфіі майго героя». Пачатак працоўнага (і я б сказаў, сексуальнага) яго жыцця звязаны з адказнай камуністкай, чуллівай і добрай, якая «дарма, што старая, як падла… затое…»

Аднойчы маленькі хлопчык-зладзюжка залез у крамку і там заснуў у кутку на кавалках паперы. Уначы ў пакоі з'явілася нейкая жанчына, якая падабралася да хлопчыка:

***«Яна прысела каля яго і хутка яшчэ мацней зашапацела пад ім папера. Казім адчуў, што жанчына шарыць па яго лайтуззю рукамі».***

Як вы зразумелі, гэта была дасведчаная падпольшчыца, якую цікавіла выключна нелегальная літаратура, на якой заснула дзіця. Дзеля гэтай літаратуры камуністка запрасіла хлопчыка да сябе. А там: ***«Жанчына ветліва частавала Казіма кавалкам хлеба і кілбасой. Потым, калі ўсе разышліся, яна паклала хлопчыка спаць. І Казім назаўсёды запомніў гэтую ноч і гэтую жанчыну. Паклаўшы яго, бруднага хлопчыка вуліцы, на чыстую пасцель, яна доўга і ласкава гладзіла яго па скудлачаных валасах і шчыльна накрывала ад холаду. Яна шмат, цёпла і ласкава гаварыла. Але дзе, хіба можна што-небудзь помніць у такія хвіліны? Казім ляжаў, яму было вельмі хораша, так хораша, што, здаецца, першы раз у жыцці ён заплакаў […] … Казім прачнуўся бадзёрым і ўзрушаным. На двары свяціла добрае, яснае і цёплае сонца».***

Надалей успаміны пра першую камуністку, роўна як і партыйныя газеты, выклікалі ў героя гарантаваны экстаз. Але гэты друкарска-камуністычны экстаз не параўнаецца з паважным друкарскім чынам «Носьбітаў нянавісці». Там прадстаўлены любоўны трохкутнік падпольшчыка, камуністкі і сцяклографа, ад якога, калі верыць апісанню, гераіня і зацяжарала.

Платон Галавач склаў «Носьбітаў нянавісці» ў 1936 годзе. Аповесць прысвечана слуцкім падпольшчыкам, якія змагаліся з польскімі акупантамі. Адзін з польскіх афіцэраў, які перайшоў на савецкі бок, Крумінскі сустракаецца з камуністкаю Ленай:

***«Ім даручылі надрукаваць на сцяклографе некалькі сот экзэмпляраў адозвы для вёскі […] яны засталіся ў каморцы і ўсю ноч працавалі […] Яны двое сутак былі без сну. Досвіткам абодва настолькі стаміліся, што ледзь валодалі рукамі […] Накладваючы на сцяклограф і здымаючы з яго лісткі паперы, Лена ледзь трымалася і час ад часу схілялася галавой да самых рук, клала твар на рукі і колькі секунд адпачывала. Ад гэтага […] увесь яе твар быў запэцканы фарбай, як і рукі […] Лена павярнулася да Крумінскага і працягнула рукі, каб запэцкаць твар і яму. Ён пераняў яе рукі, затрымаў іх, а яе неяк нечакана прыхінуў да сябе і пацалаваў […] яна […] падалася бліжэй да яго і, жартуючы, пачала туліцца шчакой да яго твару […] Гэта было пачаткам іхніх самых блізкіх адносін».***

Вынікам гэтых тыпаграфічных мілошчаў стала цяжарнасць, што выявілася па чарговай друкарскай акцыі. Будучая маці абяцае прывіць дзіцяці галоўнае пачуццё друкаваных улётак:

***«Як […] святое пачуццё, яна будзе насіць у сабе […] пачуццё нянавісці. З малаком, з сваёй крывёй яна прышчэпіць пачуццё нянавісці і яму. Чалавек, якому яна дасць жыццё, прынясе гэтую нянавісць непарушнай праз сваё жыццё, ідучы дарогай у новы свет, зусім іншы ад таго, у якім жыве яна».***

Твор Платона Галавача страшны. І не толькі таму, што там гаворыцца, як будзе «друкавацца» новы савецкі чалавек — чалавек нянавісці. Кніга страшная ледзяным цяжарам непазбежнай смерці. Слуцкія падпольшчыкі і бунтары — ці не прыхаваная гэта адсылка да забароненых слуцкіх паўстанцаў і ці не шыфр гэта да беларускай рэчаіснасці 1930-х гадоў?

Падпольшчыкі схопленыя, усім наканаваная смерць, усе расстраляныя. Няма выйсця, але ёсць турма, ёсць магіла і куля ў сэрцы.

Неўзабаве будзе арыштаваны і забіты Платон Галавач, Сяргей Знаёмы таксама пойдзе этапам; Міхасю Калачынскаму пашанцуе болей.

Дзіўныя кнігі з піянерамі-чэкістамі, скандальна-ідэалагічнымі трохкутнікамі і друкаваннем дзяцей-камуністаў толькі прамільгнулі ў гісторыі беларускай літаратуры і былі забытыя. Але ўсё вяртаецца.

# Як два царскія генералы пасварыліся

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Сто пяць гадоў таму пачалася Першая сусветная вайна — і жахі сусветнай бойні абрынуліся на Беларусь.**

## «Забілі, значыць, Фердынанда нашага...»

Як вядома, нагодай да сусветнай вайны паслужыў замах Гаўрылы Прынцыпа, сябра арганізацыі «Млада Босна», на эрцгерцага Аўстра-Венгрыі Фердынанда ў Сараева. Па іроніі гісторыі, Фердынанд быў адным з найбольш лаяльных да славянаў прадстаўнікоў Габсбургаў. У той жа час Аўстра-Венгерская імперыя праводзіла ў анексаванай ёй Босніі і Герцагавіне правакацыйныя ваенныя вучэнні. Чальцы «Млада Босні», рамантыкі і ідэалісты, падзялялі пераважна анархісцкія і сацыялістычныя погляды, але іх маглі выкарыстоўваць у сваіх мэтах і сербскія ваенныя-змоўшчыкі з таямнічай арганізацыі «Чорная рука».

Зрэшты, у беларускіх гарадах і мястэчках тады гэтых перыпетыяў не ведаў ніхто. Дый пра наступствы вайны задумваліся далёка не ўсё. І калі 1 жніўня 1914 года Германія абвясціла вайну Расійскай імперыі — у цэрквах адслужылі ўрачыстыя набажэнствы, земскія і гарадскія кіраўнікі сталі абмяркоўваць праблемы размяшчэння параненых і скалечаных, а энтузіясты — запісвацца ў войска. Зразумела, усе бакі, што ўступілі ў вайну, абвінавачвалі ў агрэсіі адзін аднаго. І ў манархічнай Расіі, і ў рэспубліканскай Францыі казалі пра спрадвечны прускі мілітарызм, а ў імператарскай Германіі — пра «рускі царызм». У Пецярбургу абураліся прыгнётам славян у Аўстра-Венгрыі, у Вене абяцалі даць свабоду і расійскім, і «сваім» палякам і ўкраінцам. Праўда, у Будапешце былі супраць. Пра беларусаў жа не казаў ніхто.

## Паўтары сотні ракаў

Віленская ваенная акруга лічылася адной з найлепшых у Расійскай імперыі. Крэпасці ў Брэст-Літоўску, Гродна, Коўна, Асаўцы і Бабруйску павінны былі, пры неабходнасці, стаць магутнымі вузламі абароны. Але расійскі Генштаб планаваў наступальную тактыку. Менавіта з беларускага плацдарму імператарская армія мела намер нанесці вырашальны ўдар Германіі: спачатку па Усходняй Прусіі, а затым — на Берлін. Загадзя былі пабудаваныя жалезныя дарогі — Палеская, Лібава-Роменская і іншыя, па якіх і пачалося перакіданне воінскіх частак да заходніх межаў. Немцы ж спадзяваліся, што «азіяты» зацягнуць сваю мабілізацыю і дадуць ім час расправіцца з Бельгіяй і Францыяй.


Нямецкая пяхота


Павел Карлавіч фон Рэненкампф

Войскі Віленскай ваеннай акругі былі зведзеныя ў 1-ю армію пад камандаваннем генерала Паўла фон Рэненкампфа. У пачатку мінулага стагоддзя ён камандаваў брыгадай кавалерыі ў Барысаве. Паводле сведчанняў таварышаў па службе, Павел Карлавіч вызначаўся добрым апетытам, выпіваў за абедам 2–3 чаркі гарэлкі і закусваў іх паўтары сотняй ракаў. Любіў жанчын, а свой і афіцэраў выхад да габрэйскіх дзяўчат, што шпацыравалі кожны вечар, называў не іначай, як «аглядам жарабіц». Са сваёй трэцяй жонкай ён развёўся і ажаніўся чацвёрты раз.

Фон Рэненкампф удзельнічаў у падаўленні «баксёрскага паўстання» ў Кітаі і ў руска-японскай вайне, быў цяжка паранены пад Ляаянам. А ў перыяд рэвалюцыі 1905 года душыў страйк чыгуначнікаў у Маньчжурыі і Чыце, вешаючы актывістаў на занятых яго войскамі станцыях. За гэтыя ці за іншыя «заслугі», але па вяртанні ў Вільню ён быў прызначаны камандзірам III армейскага корпуса. Генерал сапраўды нядрэнна рыхтаваў свой корпус да вайны, у манеўраванні і ў стральбе яго салдаты былі на вышыні. Але далейшай імклівай кар'еры генерала паспрыяла і іншая акалічнасць — камандзіры 3-га драгунскага Наварасійскага палка ў Коўна князі Беласельскі-Белазёрскі і Даўгарукі сталі флігель-ад'ютантамі цара. Яны і замовілі перад Мікалаем слоўца за свайго камандзіра корпуса. І ў 1913 годзе фон Рэненкампф стаў генерал-ад'ютантам світы Яго Вялікасці і камандуючым Віленскай ваеннай акругай. У яго войсках быў уведзены новы пяхотны статут, складзены Рэненкампфам з улікам вопыту руска-японскай вайны.

Усё б нічога, толькі камандуючым Варшаўскай ваеннай акругай, а затым і 2-й арміяй, з якой Рэненкампфу разам належала браць Усходнюю Прусію, быў генерал Аляксандр Самсонаў. Бліскучы кавалерыйскі камандзір, герой руска-японскай вайны і заклятьі вораг Паўла Карлавіча.

## «Брала руская брыгада ўсходне-прускія палі...»

Канфлікт завязаўся яшчэ на «сопках Манчжурыі». Сібірскай казацкай дывізіі Самсонава давялося адступіць і пакінуць Яньтайскія вугальныя капальні з-за таго, што Рэненкампф своечасова не аказаў яму дапамогі. Пагаворвалі, што з-за гэтага справа дайшла да рукапрыкладства. І вось камусьці хапіла розуму прызначыць менавіта гэтых двух генералаў камандаваць стратэгічнай аперацыяй, ад якой залежаў зыход вайны.

Пры гэтым нямецкае камандаванне ўжо ведала пра планы рускага боку ва Усходняй Прусіі — перад пачаткам вайны менавіта з Віленскай акругі адбылася ўцечка інфармацыі. Германцы выпрацавалі свой план: заняўшы абарону, па чарзе разбіць абедзве рускія арміі, якія вымушаныя будуць наступаць, абыходзячы з двух бакоў Мазурскія азёры.

Адзінае, чаго не разлічылі немцы, — хуткай мабілізацыі і разгортвання войскаў. Ужо ў пачатку жніўня расійскія часткі сталі ўрывацца ва Усходнюю Прусію. А яшчэ камандаванне 8-й арміяй генерала фон Прытвіца, што абараняла Усходнюю Прусію, не ўлічыла занадта палкі тэмперамент камандзіра 1-га корпуса генерала Франсуа. У сваю чаргу, гэты немец з французскім прозвішчам вырашыў, што ніводны рускі салдат або казак не павінен уступіць у нямецкую вёску. І, насуперак распараджэнню камандавання, сам рушыў наперад.

Знаходжанне царскай арміі ва Усходняй Прусіі суправаджалася эксцэсамі. Карнет 1-га Сумскага гусарскага палка Уладзімір Літаўэр успамінаў пасля: «Мы занялі Ангенбург. Палкоўнік Рахманінаў ішоў па вуліцы і ўбачыў групу гусар каля ўваходу ў краму. Калі Рахманінаў падышоў бліжэй, гусары пабеглі. Унутры нешта адбывалася. Дзверы крамы была сарваная з завесаў; у памяшканні панаваў страшэнны бардак. Рахманінаў увайшоў і пачуў галасы, што даносіліся аднекуль знізу. Ён зразумеў, што краму рабуюць. Спусціўшыся па лесвіцы ў склеп і гучна лаючыся, Рахманінаў загадаў злодзеям выходзіць. Першым з'явіўся камандзір нашай брыгады. "Ну, і чаму ж вы лаецеся, палкоўнік?" — спакойна спытаўся ён».

17 жніўня адбыўся першы буйны бой у Сталупенена. Нямецкі генерал Франсуа адразу ж атакаваў правы фланг аднаго з карпусоў 1-й арміі Рэненкампфа. І адразу нанёс яму паразу, захапіўшы некалькі тысяч палонных. З гарачкі Франсуа лічыў, што ваюе з усім правым флангам рускага войска. Але ён зусім не падазраваў, што яшчэ правей спакойна прасоўваюцца тры рускія дывізіі. Камандаванне нямецкай арміі загадала Франсуа тэрмінова адступаць, але той заявіў: «Толькі калі разаб'ю рускіх». У выніку напышлівы немец ледзь не быў разбіты сам — 159-ы пяхотны Абхазскі полк з Гомеля і 160-ы Гурыйскі з Рагачова, разам з іншымі часткамі, глыбока ахапілі яго левы фланг. Франсуа вымушаны быў спешна адступіць, рускія войскі занялі Сталупенен і вызвалілі сваіх палонных.

20 жніўня немцы ўступілі ў сустрэчны бой ля Гумбінена. Колькасная перавага была на баку германскага войска. На паўночным крыле нястомны Франсуа зноў пацясніў рускія часткі, але неўзабаве тыя атрымалі падмацаванне і прымусілі адысці 1-ы германскі корпус. У цэнтры наступаў корпус генерала Макензі. І тут вельмі непрыемным сюрпрызам для немцаў стала добрая агнявая падрыхтоўка рускіх стралкоў і артылерыстаў. Цэлыя нямецкія падраздзяленні былі змецены іх засяроджаным агнём. Відавочцы апісваюць, як нямецкая конная батарэя, што спрытна разварочвалася ў баявы парадак, была імгненна знішчаная рускімі артылерыстамі. Трэба сказаць, што ва ўсіх ваюючых войсках, у тым ліку ў нямецкім, тады яшчэ слаба ўяўлялі моц новай зброі і іншыя ўмовы вайны. Германская пяхота ў прыкметных касках — «пікельхаўбе», шчыльныя пастраенні войскаў — усё гэта ўяўляла добрую цэль. Скрываўленыя, знявечаныя трупы пакрылі лугі і прасекі прускіх лясоў. Корпус Макензі страціў 8000 чалавек і адступіў. Затым была вымушана адысці і ўся 8-я нямецкая армія.

У ацэнцы вынікаў бою ля Гумбінена рускія і нямецкія ваенныя, безумоўна, разыходзяцца. Паводле ацэнак расійскага боку, гэта была буйная перамога віленскай арміі. Немцы былі вымушаныя адступіць, ва Усходнюю Прусію з заходняга фронту Германія тэрмінова перакінула два дадатковыя корпусы. Кажуць, што тых карпусоў і не хапіла немцам у бітве на Марне, каб хутка зламаць Францыю.

Натуральна, немцы лічылі па-іншаму. Начальнік аператыўнага аддзела штаба 8-й арміі Макс Гофман увечары 20 жніўня ацэньваў нямецкі стан як спрыяльны, і рыхтаваўся да новага наступу. Але раптам атрымаў вестку — з другога боку Мазурскіх азёр на Усходнюю Прусію пачала прасоўванне 2-я армія генерала Самсонава. Гэта ледзь не зрынула кайзераўскіх генералаў у шок. Цяпер усходне-прускай групоўцы пагражалі «клешчы».

Працяг на стар. 12 »

« Заканчэнне. Пачатак на на стар. 11

Камандуючы 8 арміяй фон Прытвіц ужо хацеў адступаць за Віслу, але Гофман, па яго словах, адгаварыў яго. Немцы хутка змянялі свой план: зараз трэба было спешна адарвацца ад войска Рэненкампфа і разбіць Самсонава.

Але пры гэтым частку сваіх сіл немцы планавалі пакінуць для прыкрыцця ад «беларускай» арміі. «Ніхто ж не мог нават выказаць здагадку, — пісаў пасля Гофман, — што Рэненкампф, атрымаўшы раніцай паведамленне пра адыход германскіх войскаў, спакойна і пасіўна застанецца на месцы. Наадварот, варта было чакаць, што ён з усімі сіламі энергічна кінецца за намі». Але фон Рэненкампф — не кінуўся.

### Таненберг-1914

Адыходзячы, немцы са здзіўленнем асэнсавалі, што іх ніхто не пераследуе. Тым часам камандуючым 8-й арміяй замест фон Прытвіца быў прызначаны энергічны Паўль фон Гіндэнбург.

Першапачаткова арміі генерала Самсонава атрымалася пацясніць адну з нямецкіх дывізій. І тады натхнёнае поспехам камандаванне варшаўскай арміі аддало загад аб пераходзе да агульнага наступу. Да таго ж, загад быў перададзены па радыёстанцыі адкрытым тэкстам. Верагодна, што ў новага начальніка нямецкага штаба фон Люндэдорфа яшчэ доўга здзіўлена тапырыліся вусы:

— Гер Гіндэнбург, я вельмі баюся, што гэтая радыёграма — спрытны ход Самсонава па нашай дэзінфармацыі.

Генерал Гофман, што доўгі час служыў у Пецярбургу ў якасці ваеннага аташэ, гэта значыць — выведніка, мог яго супакоіць:

— Гэта звычайная для іх справа. У іх нават ёсць адмысловае слова для яго абазначэння. Як гэта будзе па-руску? Мой генерал, я яго забыў... Увогуле, рускія вельмі смелыя — але бестурботныя.

Бестурботнасць вышэйшага генералітэту каштавала крыві салдатам і афіцэрам расійскай арміі, якія адважна змагаліся і былі ўжо на паўдарозе да перамогі ва Усходняй Прусіі. Большасць асабістага складу віленскай арміі, дый часткі варшаўскай, складалі ўраджэнцы Беларусі.

26 жніўня немцы сустрэлі войска Самсонава добра падрыхтаваным контрударам. Кровапралітныя баі разгарнуліся ў раёне Таненберга, дзе ў 1410 годзе арміі ВКЛ і Польшчы ўшчэнт разграмілі тэўтонцаў. Варшаўская армія панесла цяжкія страты і апынулася ў акружэнні. Самсонаў адчайна чакаў дапамогі.

А што ж віленская армія? Увесь гэты час Рэненкампф па-ранейшаму стаяў на месцы. Адно нявялікія разведвальныя групы кавалерыстаў гойсалі па навакольных лясах. Толькі 28 жніўня 1-я армія атрымала загад ісці на злучэнне з Самсонавым. Але ўжо на наступны дзень камандуючы Заходнім фронтам Жылінскі адмяніў наступ. Ён лічыць, што Самсонаў па яго загадзе ўжо адыходзіць. На самай справе варшаўская армія сцякала крывёю ў цяжкіх баях з германцамі. Нарэшце, 30 жніўня 1-я кавалерыйская дывізія Васіля Гурко, сына героя руска-турэцкай вайны і прадстаўніка старадаўняга беларускага шляхецкага роду, атрымала загад здзейсніць рэйд для ўстанаўлення сувязі з Самсонавым. Але было ўжо занадта позна...


Аляксандр Самсонаў

Напярэдадні генерал Самсонаў асабіста ўзначаліў спробу прарыву з акружэння аднаго з карпусоў на злучэнне з Рэненкампфам. Але нямецкае кальцо прабіць не ўдалося... На світанку 30 жніўня Аляксандр Самсонаў застрэліўся ў варожым асяроддзі. Амаль уся яго армія была знішчаная альбо трапіла ў палон. Затым немцы павярнулі войскі супраць 1-й арміі і з цяжкімі баямі прымусілі яе адысці за Нёман. Рэненкампф, кінуўшы сваё войска, на аўтамабілі збег у Коўна.

Нават нямецкае камандаванне было шакаванае — чаму камандуючы 1-й арміяй не дапамог Самсонаву? «Усялякае прасоўванне Рэненкампфа павінна было прадухіліць катастрофу пад Таненбергам», — лічыў Гофман. Балазе, дзякуючы яму немцы ведалі, як Рэненкампф ужо адзін раз «падставіў» Самсонава ў Маньчжурыі. І збольшага прымалі гэта ў разлік. Але ўсё ж не думалі, што варшаўская армія не атрымае ўвогуле ніякай (!) дапамогі ад віленскай.

Сёння бяздзейнасць фон Рэненкампфа апраўдваюць рознымі прычынамі. Паводле адной версіі, яго войскі былі скрайне аслабелыя доўгімі маршамі і панеслі цяжкія страты пад Гумбіненам. Але хіба немцы не былі выматаныя і не мелі мноства забітых і параненых? Але яны змаглі здзейсніць яшчэ адзін пераход і разбіць свежую армію Самсонава. А Рэненкампф прастаяў больш за тыдзень, так і не аказаўшы ніякай дапамогі Самсонаву.

Яшчэ кажуць пра адсутнасць у яго рэсурсаў для працягу наступу. Ёсць яшчэ адна версія — Рэненкампф атрымаў загад ад камандуючага Заходнім фронтам генерала Жылінскага наступаць на злучэнне з 2-й арміяй на Кёнігсберг. І абвінавачваюць у памылковым рашэнні і зрыве аперацыі камандуючага фронтам.

Так што ж адбылося ва Усходняй Прусіі на самай справе? Фон Рэненкампф быў часткай «нямецкай змовы» ў рускай арміі? Ён па-ранейшаму працягваў зводзіць асабістыя рахункі з Самсонавым? Або камандзір віленскай арміі — герой, абгавораны нядобразычліўцамі?

Вінаватымі ў паразе былі ўсе — цар, што ўцягнуў народы Расійскай імперыі ў непатрэбную ім вайну. Царская Стаўка, якая распыляла сілы на два франты — ва Усходняй Прусіі і ў Галіцыі, супраць другараднай Аўстра-Венгрыі, замест засяроджвання іх супраць галоўнага праціўніка — Германіі. Камандуючы Заходнім фронтам Жылінскі і камандуючы 1-й арміяй Рэненкампф, якія не дамагліся ўзгодненых дзеянняў сваіх войскаў.

А ў выніку заходняя частка нашай краіны была акупаваная нямецкімі войскамі, гарады і вёскі былі спустошаныя падчас адступлення. Мільёны беларусаў сталі бежанцамі альбо загінулі на фронце.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што першы помнік Францыску Скарыну планавалі паставіць яшчэ ў 1925 годзе? А хто быў выдаўцом першай «Нашай Нівы»? Пра гэта і іншыя знакавыя даты Беларусі — у чарговым аглядзе.**

### 10 жніўня

**1839.** У расійскім Уладзіміры нарадзіўся фізік Аляксандр Сталетаў, вуліца імя якога ёсць у Мінску.

**1929.** У вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся паэт Алесь Ставер. Многія яго вершы былі пакладзены на музыку і сталі вельмі папулярнымі песнямі. Напрыклад, «Жураўлі на Палессе ляцяць».

### 11 жніўня

**Дзень будаўніка** адзначаецца ў Беларусі (у другую нядзелю жніўня).

**1974.** У Полацку адкрыты помнік Францішку Скарыну. Яго планавалася паставіць яшчэ ў 1925 годзе, нават было выбрана месца на Замкавай гары на беразе Дзвіны. Аднак працы па вырабе помніка зацягнуліся — і ў выніку былі спыненыя. Гэта — першы помнік першадрукару ў Беларусі.


Фота www.волковыск.by

### 12 жніўня

**Міжнародны дзень моладзі.**

**1399.** Адбылася бітва на рацэ Ворскла ў Палтаўскай вобласці, падчас якой Залатая Арда ўшчэнт разбіла войска ВКЛ. Князь Вітаўт ледзьве ўратаваўся з невялікай дружынай.

**2004.** Была заснаваная (з'явіліся першыя артыкулы) беларуская версія Вікіпедыі.

### 13 жніўня

**Міжнародны дзень леўшуноў.**

**1949.** У Адзінцоўскім раёне Маскоўскай вобласці нарадзіўся Генадзь Галкін, беларускі спартовец (стэндавая стральба). Рэкардсмен СССР і чэмпіён свету–1973.

### 14 жніўня

**1824.** Расійскі цар Аляксандр I падпісаў прысуд удзельнікам таемных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў у Віленскім універсітэце. Дзясяткі іх былі сасланыя ў аддаленыя губерні імперыі, асноўная ж маса апынулася пад пільным наглядам паліцыі. Пад рэпрэсіі патрапілі, напрыклад, Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот. А нядобранадзейныя выкладчыкі былі звольненыя з універсітэту.

### 15 жніўня

**Дзень археолага.**

**1954.** У Падсвіллі Глыбоцкага раёна на Віцебшчыне ў бальніцы, куды яго, знойдзенага ў беспрытомнасці на дарозе, прывезлі сяляне, памёр Язэп Драздовіч, мастак, скульптар і этнограф. Называецца таксама іншая дата смерці — 15 верасня.

### 16 жніўня

**1874.** У Вілейцы на Міншчыне нарадзіўся грамадскі дзеяч і выдавец Аляксандр Уласаў. З 1906 па 1914 гады быў рэдактарам-выдаўцом газеты «Наша Ніва». Прыцягнуў да працы ў рэдакцыі многіх вядомых літаратараў, у тым ліку Янку Купалу ды Якуба Коласа. За крытычныя публікацыі датычна самадзяржаўя Уласава неадназова судзілі і аднойчы на некалькі месяцаў зняволілі. Заснаваў ён і некалькі іншых выданняў — «Саха», «Лучынка». Уваходзіў у Раду БНР.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1256

Падпісана да друку 09.08.2019. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.